PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 20 (2192) Год XLIII Беласток 17 мая 1998 г. Цана 1 зл.



*Падазяраны ўражваюць сваёй натуральнасцю. Рэпартаж Ганны Кандрацюк чытайце на стар. 3.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Хто хоча спыніць сувязь Гайнаўшчыны са светам?

# У Гайнаўцы бунт

Аляксей Мароз

**— Калі не будзе рашучага супрацьдзеяння грамадства, чыгуначны пасажырскі транспарт у Чаромху, Цісоўку, Бельск і Белавежу будзе спынены, — заявіў у час пасяджэння Гарадской рады радны Яўген Сачко. — Трэба, каб Гайнаўка прачнулася, а такое выступленне назваў бы я бунтам.**

17 сакавіка 1998 года Цэнтральная дырэкцыя Польскай дзяржаўнай чыгункі выступіла да беластоцкага ваяводы Крыстыны Лукашук з просьбай выказаць наконт планаваных змен у галіне пасажырскага транспарту на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства. У згаданым пісьме галоўны дырэктар чыгункі інфармаваў, што мае намер выступіць у Міністэрства транспарту з прапановай поўнай ліквідацыі чыгуначнага пасажырскага транспарту з Беластока ў Гайнаўку і з Гайнаўкі ў Бельск-Падляшскі (які зараз замяшчаюць чыгуначныя аўтобусы) і часовага прыпынення руху з Чаромхі ў Гайнаўку і з Гайнаўкі ў Цісоўку. Дырэкцыя чыгункі інфармавала, што да такога рашэння прымушае іх нерэнтабельнасць чыгуначнага транспарту.

**Рэзалюцыя**

На XXXVII сесіі Гарадской рады 29 красавіка 1998 года аднагалосна была прынята рэзалюцыя, у якой Рада заявіла пра сваё рашучае супрацьўленне планам Цэнтральнай дырэкцыі чыгункі. У рэзалюцыі радныя заяўляюць, што ліквідацыя чыгуначнага транспарту на тэрыторыі Белавежскай пушчы будзе пярэчыць палітыцы польскага ўрада, які заклікае да яе аховы. Радныя піцуць, што многа жыхароў ездзіць чыгункай на адпачынак у Семяноўку, на працу, і ў школу ў Гайнаўку. Чыгунка з'яўляецца таксама адзіным зручным транспартам з Гайнаўкі у Варшаву. Прадстаўнікі горада здзіўляюцца, што небяспечны транспарт хімікатаў, якія возяць праз Цісоўку, Гайнаўку і Чаромху, надалей хочуць пакінуць, а гэта ж стварае небяспеку аварыі і катаклізму для прыпушчанскай тэрыторыі.

**Бунт**

У час пасяджэння Гарадской рады завязалася дыскусія наконт іншых неабходных намаганняў, звязаных з захаваннем чыгуначнага транспарту.

— Ужо засталося мала часу, каб выступаць толькі з петыцыямі. На чыгуначным шляху з Белавежы ў Бельск-Падляшскі ўвайшлі ўжо электрычныя службы, якія дэмантуюць электрычную сетку, а пасля іх ніякага цягніка ўжо не пусцяць, — гаварыў радны Яўген Сачко. — Мінуў ужо час, калі гмінам трэба было дасылаць свае заўвагі. Дэлегацыі з Семяноўкі і Нараўкі былі ўжо ў Варшаве. Калі не хочуць, каб ездзілі пасажырскія цягнікі, дык няхай і спыняць транспарт небяспечных хімікатаў. Няхай пакажуць рэнтабельнасць таварнага транспарту, а тады будуць гаварыць пра пасажырскі. Трэба збіраць подпісы супраць рашэння кіраўніцтва чыгункі і везці ў Міністэрства транспарту, а калі гэта не паможа, трэба арганізаваць пратэст на месцы, нават мець на ўвазе спыненне цягнікоў.

— Трэба выступаць рашуча, але згодна з дзеючым заканадаўствам, — гаварыла бурмістр Ядвіга Рудзінская-Патэюк.

— Калі не будзе пратэсту на месцы, чыгуначныя шляхі будуць ліквідаваны, — працягваў радны Яўген Сачко.

Падчас дыскусіі, так як і ў рэзалюцыі, гаварылася пра недарэчнасць апошніх рашэнняў Польскай дзяржаўнай чыгункі ў адносінах да Гайнаўшчыны. Усе радныя былі згодныя, што апрача рэзалюцыі трэба арганізаваць ініцыятыўную групу для стварэння Грамадскага камітэта, які мог бы змагацца за захаванне пасажырскага транспарту. У такую ініцыятыўную групу ўвайшлі радныя: Яўген Сачко, Мікола Бушко, Якуб Астапчук, Ядвіга Рудзінская-Патэюк, Як Верамюк, Здзіслаў Вятроўскі і Віталь Шпаковіч. Ініцыятыўная група, пераўтварыўшыся ў Грамадскі камітэт абароны паса-

[працяг ☞ 3]

## У нумары

# Мы прачыталі

*Dotychczas przeciętny turysta nie miał okazji zobaczyć jak giną resztki puszczy, która niegdyś pokrywała większość Europy. Wszystko polegało na bardzo sprytnym kamuflażu — makijażu, który zapewniał tzw. rezerwat przyszosowy. Jest to pas lasu ciągnący się wzdłuż drogi Białowieża — Hajnówka. Po obu jej stronach pozostawiono szeroką na kilkaset metrów kurtynę starego pięknego lasu, która zasłania to, co dzieje się głębiej. Jak ktoś przyjeżdża z Warszawy, to jedzie właśnie drogą Hajnówka — Białowieża, mija piękne świerki, sosny, dęby. Potem idzie do ścisłego rezerwatu — Białowieskiego Parku Narodowego i widzi prawdziwą dżunglę. Potem ognisko w Białowieży i z powrotem do Warszawy. Takiemu gapiowi nie przyjdzie do głowy, że ta puszcza jest wycinana w takim tempie, że praktycznie przestaje istnieć. Teraz już nawet wycinana jest owa przyszosowa kurtyna. Nikt się z tym nawet nie kryje.*

*Gazeta Wyborcza, nr 96*

* * *

*Jest rok 2000. O stanowisko głowy państwa w Polsce ubiega się Engels Komuchowicz, lider partii Czerwona Rewolucja.*

*Kurier Poranny, nr 100*

Спакойна! Гэта не прагноз варожкі. Гэта толькі фільм, які рэалізуецца ў Беластоку.

* * *

*Zło w osobie Pol Pota — przez upływ czasu, przez bezkarność, stało się banalne. Zło da się już ująć w kategoriach statystycznych: zginął co trzeci mieszkaniec; dziś 64 proc. pokolenia Kambodży to sieroty. W państwie Pol Pota nie było więzień, uniwersytetów, szkół, nie było pieniądza, sportu, książek, rozrywek. Życie było tak podzielone: dwanaście godzin na pracę, dwie na jedzenie, trzy na odpoczynek i wychowanie, siedem godzin snu. Człowiek miał jedynie wykonywać rozkazy. Towarzyszył temu krwawy terror, wykluczający wszelki opór. Torturowano więźniów przed egzekucją, dla oszczędności amunicji połowie zamordowanych rozbijano czaszkę prostym narzędziem. „Lepiej zabić dziesięciu przyjaciół niż zachować przy życiu jednego wroga" — to cytat z przemówienia przywódcy Czerwonych Khmerów. Morderstwo stało się metodą rządzenia. Kres zbrodniom Czerwonych Khmerów położyli dopiero Wietnamczycy, uważani za wrogów zarówno przez Waszyngton, jak i Pekin. To tłumaczy sojusz Amerykanów z mordercami. Cynizm amerykańskiej gry politycznej sprawił, że przedstawiciele Pol Pota zasiedli na trybunie Narodów Zjednoczonych. Najbardziej krwawy komunistyczny reżim był wspierany przez szermujących hasła o wolności i demokracji amerykańskich prezydentów, a wolna prasa pisała z życzliwością dla Czerwonych Khmerów o ich walce z Wietnamczykami.*

*Polityka, nr 17*

* * *

*Piastujący drugą kadencję Siergiej Plewa z SLD, oprócz diety i poselskiego uposażenia, pobiera również wynagrodzenie za pełnienie funkcji „społecznego" prezesa Spółdzielni Mieszkaniowej „Słoneczny Stok" w Białymstoku. Za swą „społeczną" pracę otrzymuje miesięczną dietę w wysokości 1700 zł. Plewa pracuje w Spółdzielni tylko w poniedziałki przez dwie godziny. Siergiej Plewa pobiera też dietę w Sejmie i uposażenie poselskie w wysokości podsekretarza stanu. Artykuł 33 Ustawy o wykonywaniu mandatu posła i senatora z 1996 r. stwierdza, że posłowie i senatorowie nie mogą podejmować dodatkowych zajęć. Poseł Plewa zaś ma dwie diety,* — інфармуе

*Gazeta w Białymstoku, nr 96*

І хто б падумаў — „наш" нардэп, а які хітры!

* * *

*Не так мо цяперашняму рэжыму, як найперш яго стваральніку і асноўнаму стрыжню — прэзідэнту Лукашэнку — з усіх сіл жадаецца хоць якіх поспехаў, хай сабе нават мройных, у эканоміцы, у знешнепалітычных стасунках, у сацыяльнай сферы. Вось ужо сапраўды: раз указ, два указ — уся рэспубліка калгас. Толькі летась прэзідэнт наштампаваў аж но 32 дэкрэты і звыш 650 указаў, але праблем у нашым жыцці не паменшала. Наадварот.*

*Магілёўскі тыднёвік, н-р 8*

Справа, таварышы, не ў вырашэнні праблем. Дэкрэты і ўказы — гэта новы гатунак літаратуры. Рыгоравіч мае ж таксама права праяўляць сваю актыўнасць і ў мастацтве.

* * *

*Prezydent Łukaszenka wydał ukaz, że będziemy obchodzić rocznicę urodzin Mickiewicza, więc będziemy. Pieniędzy na ten cel na Białorusi nie brakuje. Na odbudowę folwarku Mickiewiczów w Zaosiu wydano już 100 tysięcy państwowych dolarów.*

*Gazeta — Magazyn, nr 17*

* * *

*Беларусь — бедная краіна? 32 працэнты рэспандэнтаў адказалі — багатая, 30 — бедная, 40 — сярэдне багатая.*

*Голас Радзімы, н-р 16*

Апытальнік правялі лукашэнкаўскія спецыялісты па прапагандзе. Віншуем з аптымізмам.

# З мінулага тыдня

**Свабоднай прэсай** карыстаецца 20% жыхароў свету, — паведамляе рапарт арганізацыі Freedom House (Дом свабоды), аб'яўлены з нагоды нядаўняга Дня свабоды друку (3 мая). 38% насельніцтва жыве ў краінах, у якіх выдаецца часткова свабодная прэса, а 42% — у краінах, у якіх няма свабоднага друку і аб'ектыўнай інфармацыі, а толькі прапаганда. Эксперты Freedom House, якія ўвесь год дэталёва сочаць за польскімі сродкамі масавай інфармацыі і прынамсі раз у год наведваюць нашу краіну, асабліва папракнулі польскіх палітыкаў за надта настойлівы ціск, аказваны імі на тэлебачанне, перш за ўсе на публічныя тэлеканалы.

**Сенат ЗША** рашучай большасцю галасоў — 80 да 19 — ратыфікаваў пратаколы прыняцця ў НАТО Польшчы, Чэхіі і Венгрыі. Амерыканская ратыфікацыя вырашае на практыцы ўваход Польшчы ў Паўночнаатлантычны пакт. ЗША — гэта пятая краіна, якая ратыфікавала пашырэнне НАТО на ўсход. Раней зрабілі гэта парламенты Нямеччыны, Даніі і Нарвегіі ды ўрад Канады.

**Самаўрадавыя выбары** ўсіх узроўняў праўдападобна адбудуцца 11 кастрычніка г.г. Гэты тэрмін адабраюць прэзідэнт і правячая кааліцыя. Сапраўднасць паўнамоцтваў цяперашніх самаўрадавых улад канчаецца 19 чэрвеня.

**Беластоцкі ваявода** не згаджаецца на спыненне руху цягнікоў па маршрутах Бельск-Падляшскі—Гайнаўка—Чаромха, Чаромха—Гайнаўка, Лапы—Астралэнка, Гайнаўка—Цісоўка і Беласток—Зубкі-Беластоцкія. Чыгуначныя ўлады доказваюць, што курсіраванне пааздоў на гэтых лініях не дае ім прыбытку, а толькі адны страты. Ваявода аднак лічыць, што спыненне руху цягнікоў у раёне Белавежскай пушчы нельга разглядаць толькі ў экалагічным плане. Закрыццё чатыры гады таму лініі Гайнаўка—Белавежа павялічыла толькі колькасць рэйсавых аўтобусаў, у выніку чаго лясны масіў падвяргаецца большай дэградацыі пад уздзеяннем выхлапных газаў. Далейшае абмежаванне руху пааздоў у раёне пушчы давядзе да павелічэння аўтамабільнага транспарту.

**У Заблудаве** 3 мая адбыліся ўрачыстасці ў гонар св. Гаўрыіла — заступніка Беластоцкай зямлі і праваслаўнай моладзі. Напярэдадні са Свята-Ільінскага прыхода ў Дайлідах выйшла паломніцтва з тысячы пераважна маладых вернікаў. Багаслужбу ўзначалілі архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі, locum tenens мітрапаліта Варшаўскага і ўсяе Польшчы **Сава** і епіскап Люблінска-Холмскі **Авель**. У Зверках каля Заблудава, дзе нарадзіўся св. Гаўрыіл, узводзіцца царква ў яго гонар.

**Філіялы Універсітэта** ў Беластоку будуць створаны ў Ломжы і Сувалках. Такія прапановы выйшлі ад улад абодвух гарадоў і сустрэліся яны са станоўчым водгукам. Кіраўніцтва Універсітэта мае ўжо падрыхтаваную мадэль дзеяння сваіх філіялаў, а горад, які хадайнічае за стварэнне такога асяродка, павінен забяспечыць будынкі, іх кошты ўтрымання і два-тры адміністрацыйныя штаты.

**Беластоцкія купцы** распаўсюдзілі лістоўкі аб планаванай чорнай працэсіі ў знак пратэсту супраць абмежавання прыгранічнага руху і змяншэння абароту на базарах. У лістоўцы чытаем: „Сённяшняя барацьба за будучыню Польшчы вядзецца на полі гаспадаркі. У Беластоку ўзнікае пытанне: ці амаль мільярд долараў гадавога абароту беластоцкага гандлю застанецца ў польскіх руках? Калі так — прыбытак ад гэтага абароту падтрымае развіццё горада і рэгіёна. Калі не — станем парыямі ва ўласнай айчыне".



# Весткі з Беларусі

**Першамайская апазіцыя**

Дзвесце апазіцыйных дэманстрантаў з Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі „Народная грамада" далучыліся да першамайскага шэсця ў Менску, арганізаванага афіцыйнымі ўладамі. Скандзіравалі яны антыпрэзідэнцкія лозунгі. Калі апазіцыянеры пачалі разыходзіцца, супрацоўнікі КДБ затрымалі каля 20 чалавек, а некалькіх пабілі.

**Добрыя адносіны**

Прэзідэнт Расеі Барыс Ельцын падчас маскоўскай сустрэчы з прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам заявіў наступнае: „Думаю, што нашы адносіны ў рамках Саюза развіваюцца дастаткова добра. Зараз дасягнуты рост узаемнага тавараабароту на 40%. У нас ні з адной дзяржавай СНД такога росту няма. Вядома, гэта работа двух прэзідэнтаў, двух урадаў". Ельцын адзначыў, што ўжо пачалася сумесная работа прадпрыемстваў дзвюх краін.

**Змены ў штаб-кватэры СНД**

Новыя структуры і штатны расклад Выканаўчага сакратарыята СНД, штаб-кватэра якога знаходзіцца ў Менску, будзе вызначана ў бліжэйшы час пры непасрэдным удзеле яго новага кіраўніка Барыса Беразоўскага. Рашэннем былога выканаўчага сакратара СНД Івана Каратчэні ўсе супрацоўнікі апарату штаб-кватэры СНД выведзены за штат. Гэта дае магчымасць Беразоўскаму вызначыцца з новай структурай і штатам згодна пажаданням кіраўнікоў краін Садружнасці, якія былі выказаны ў ходзе маскоўскага саміту.

**Беларуска-швейцарская выстаўка**

Фотавыстаўка „Усход — Захад у пошуках Беларусі. 12 гадоў пасля Чарнобыля" адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі. На ёй прадстаўлены работы беларускага фатографа Сяргея Брушко і яго калегі са Швейцарыі Гуга Йегі. Гэта экспазіцыя арганізавана паралельна з аналагічнай выстаўкай, якая адкрылася ў швейцарскім горадзе Залатурне. Яна будзе падарожнічаць па гарадах гэтай краіны да канца лета. Адначасова з выстаўкай у Швейцарыі адбудзецца шэраг канферэнцый, прысвечаных чарнобыльскім праблемам.

**Падрыхтоўка да юбілею**

Грамадскасць Беларусі рыхтуецца адзначыць 200-гадовы юбілей Адама Міцкевіча. Гэтай падзеі будзе прысвечана міжнароднае свята паэзіі, якое адбудзецца ў Навагрудку. Рыхтуюцца да гэтай знамянальнай даты і ў Баранавіцкім раёне. На хутары Завоссе, дзе нарадзіўся паэт, аднаўляецца сядзіба-музей, якая будзе адным з пунктаў турыстычных маршрутаў, звязаных з жыццём і творчасцю паэта. Па дарозе ў Навагрудак турысты змогуць наведаць Тугановіцкі парк, дзе любіў адпачываць Адам Міцкевіч.

**Прафілактыка сярод жанчын**

Беларуска-амерыканскі цэнтр здароўя жанчын адкрыўся на базе сталічнага Радзільнага дома № 2. Ён створаны па ініцыятыве амерыканскага Міжнароднага саюза аховы здароўя, Міністэрства аховы здароўя Беларусі і Камітэта па ахове здароўя Менскага гарвыканкама. Галоўны ўпор у новым цэнтры будзе зроблены на прафілактычную работу, прычым сярод жанчын усіх узроставых катэгорый. Аднак найбольшую ўвагу спецыялісты маюць намер удзяліць пытанням захавання рэпрадуктыўных функцый у падлеткаў, для чаго неўзабаве пачнецца ўкараненне спецыяльнай асветніцкай праграмы. Гэта ўжо трэці цэнтр адкрыты амерыканскім Міжнародным саюзам аховы здароўя на тэрыторыі былога Савецкага Саюза. У краінах СНД плануецца стварыць 12 такіх устаноў.

**Новыя рэзідэнцыі**

Шэраг дыпламатычных прадстаўніцтваў, акрэдытаваных у Беларусі, у бліжэйшы час будзе вымушана пераехаць у новыя рэзідэнцыі. Прычына такога рашэння — тэхнічны стан камунікацыйных сетак у дыпламатычным пасёлку Дразды, які будаваўся ў канцы 50-х гадоў. На час правядзення работ па рэканструкцыі сістэмы вода- і электразабеспячэння, каналізацыі і лакальных ачышчальных збудаванняў замежныя прадстаўніцтвы вымушаны будуць выслабаніць свае асабнякі. Дыпламатам прапанаваны на выбар катэджы ва ўрадавым комплексе Крылова і кватэры ў прэстыжным доме па вуліцы Чырвонаармейскай у Менску.

# У Падазяранах няма надзеі

**У Падазяранах прывыклі да частых паховін. У вёсцы, калісьці людней, пераважаюць удовы-пенсіянеркі. Канец свету сустракаецца тут з канцом чалавечага жыцця.**

**— Там наша дарога, — кажуць пра могільнік, — да Уніі Еўрапейскай...**



*Жыхары Падазяран не наракаюць. Другі справа солтыс Мечыслаў Варона.*

**Два нябожчыкі сёння**

Падазяраны распаложаны на маляўнічых узгорках непадалёк Луплянскага лесу. Адсюль блізка да дрыгвяністага запаведніка „Ганчар" і Семяноўскага вадасховішча. Вёска належыць Гарадоцкай гміне і Ялоўскай парафіі. У Падазяранах жывуць людзі і каталіцкай, і праваслаўнай канфесій. Навокал мясціны шмат аблагоў, палеткі пaрослыя бярэзінай. У саміх Падазяранах ужо шэсць апусцелых сядзіб, закрытая школа і частыя паховіны.

— І сёння ў нас два нябожчыкі, — кажа рэнтыстка Зінаіда Раецкая.

Першы, Станіслаў Хвайко, памёр ад старасці. Другі, Язэп Матуз, скончыўся невядома як і невядома калі. Знайшлі яго мёртвага ў хаце на хутары, дзе жыў самотна.

— Ён то і выпіць любіў, — падказваюць кабеты, якія сабраліся ля плота Зінаіды Раецкай.

З-за гэтых паховін такі зрух у вёсцы. Панаязджала таксовак, сваякоў. Вяскоўцы таксама пойдуць развітацца і правесці цераз вёску. Усе, і каталікі, і праваслаўныя.

— Бо людзі тут згодныя і зграныя, не выружняюць, — кажа солтыс Мечыслаў Варона, — хто якой веры.

**Хапае аж па вушы**

Солтыс разам з жонкай вяртаўся ад гною.

— Я рэнтыст, а не рольнік, — кажа ён пра сябе.

Зямля яго, як і большасці рэнтыстаў, перапісана на гарадскіх дзяцей. Солтыс, хаця і пенсіянер, абрабляе дваццаць гектараў зямлі.

— Яшчэ і ўдавіцам памагае, — дадаюць кабеты.

У Падазяранах вяскоўцы — дыпламаты. На запытанне, ці можна пражыць за трыста пяцьдзесят злотых у месяц, бо такую звычайна атрымоўвае былы гаспадар пенсію, адказваюць: „Хапае аж па вушы". А калі папытацца як ім жывецца, адкажуць: „Абы горш не было. І каб толькі тая Семяноўка не залівала", — каментуюць заадно і веснавыя паводкі на поўдні Польшчы.

— Найгорш, што маладых як на лякарства, — кажа Зінаіда Раецкая. — У кожнай хаце па адному або па *двозе* людзей жыве. На ўсю вёску, 81 сядзіба, чацвёра дзетак у школу ў Гарадок давозяць. А пасля вайны столькі дзяцей нарадзілася, што вуліца шумела. У двох будынках школа працавала.

**Прыйдзе п'яніца і абкрадзе**

Ля магазіна выстаўлены драўляны столі лавачкі. Тут за піўцом любяць гутарыць мужыкі.

— Слаба купуюць рэнтысты, — наракае прадаўшчыца Галіна Качан. — Пераважна хлеб і масла. І co tu ukryć. — дадае сціпаным голасам, — найчасцей піва або віно, гэтае звычайнае, — паказвае на віно маркі „Vino". — Я нават маржанага не маю, бо такіх тавараў рэнтысты не купляюць. Яны яшчэ са сваёй пенсіі гарадскім дзецям дапамагаюць.

Пані Галіна расказвае як двойчы абакралі яе магазін.

— Ale wie pani jaki on inteligentny złodziej, — кажа раз па-польску, раз па-беларуску мая субяседніца пра вядомага ў наваколлі зладзюгу. — У магазін залез ён цераз комін. Нават у тую самую ноч па вёсцы паліцыя ездзіла. Магазін навокал абшылі. Але інтэлігентны зладзюга ўцягнуў за сабой на дах лесвіцу.

— А што прапала? — пытаю.

— Папяросы, водка, піва і фільцы. Пазней тыя фільцы ў калодзежы таго злодзея найшлі. Ужо ходжаныя былі.

— А цяпер у школе пасяліўся нейкі бадзяга, — кажуць з трывогай у Падазяранах. — Ужо школьную браму і трубы ад *рынны* на водку прадаў.

— І думаеце, — наракаюць жыхары, — чалавек не баіцца? Толькі і чакай, як нейкі п'яніца прыйдзе і пакрадзе ўсё.

**Размаўляем па-бацькоўску**

— Вы б да нас як сады зацвітуць прыехалі, — запрашаюць жанчыны. — А як пляшку спірту паставіце, то і паспяваем вам.

Мае субяседнікі не маглі надзівавацца, што размаўляю па-простаму.

— Як гэта можа быць, каб гарадская пані і па-простаму гаварыла?

— А вы па-якому размаўляеце, — пытаю Мечыслава Варону.

— Па-бацькоўску, — кажа солтыс. — Такая наша мова, яна ні руская, ні польская, ні беларуская, проста простая — А там украінец жыве, — паказваюць на драўляную хатку са спадарожнікавай антэнай-талеркай.

— З Ляўкова, прымак ён, — паясняюць — *вуон, вана* гаворыць. А гэтую антэну яму сын з Беластока прывёз.

— Паненка, хадзіце нам здымак зробіце, — заклікаюць жанчыны з іншай лавачкі. І тут дзівуюцца, што размаўляю па-простаму.

— Вучоныя людзі, — разважае пан Зютэк Грыка, — па-ўсякаму ўмеюць. Вы думаеце такі ксёндз па-руску не ўмее? Або бацюшка, у тэлевізары па-польску выступае, а ў царкве па-руску правіць.

Пан Зютэк успамінае, як цяжка было яму гаварыць па-польску, калі ў войска забралі.

— Чалавек надумаўся, пакуль нешта сказаў. Хто тут па-польску па вайне гаварыць умеў?

**Няма надзеі**

— Няма ніякай надзеі, што вёска астанецца, — кажа Зінаіда Раецкая.

— А што нам тая Унія Еўрапейская? — смяецца Мечыслаў Варона. — Наша дарога на могільнік, а не ў Еўропу. Вось паглядзіце, як нішчэюць хлявы, хаты, бярэзіна навокал зарастае.

— Павывучвала панства нашых дзяцей, — уздыхае Зінаіда Раецкая, — а яны ад нас паўцякалі. Цяпер нам, старым, абы дажыць. Зачыніцца такая баба, як я, у хаце адна, і хоць ты спявай, і хоць ты плач!

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*



*Панадворкі надта ж славянскія.*

# Небяспечны паварот

Кожны ўладальнік машыны плаціць дарожны падатак і патрабуе, каб стан дарог гарантаваў бяспеку аўтамабільнага руху. Аднак на практыцы бывае па-рознаму. Прыкладам хай будзе 3-кіламетровы кавалак ваяводскай дарогі з Орлі ў Шчыты. Раней, калі тут была брукаванка і па ёй ездзілі толькі фурманкі, была гэта бяспечная дарога. З часам рух павялічваўся і ў 1996 годзе пакрылі яе тонкім пластом смалы. Але замест гладкай паверхні атрымаліся адны мульды. Не дадумаліся ні гмінныя ўлады, якія пры падтрымцы ваяводскага бюджэту фінансавалі рамонт, ні дарожныя майстры, каб пры нагодзе перабудаваць небяспечны паварот, хаця ўжо дваццаць гадоў нехта пра тое думаў, бо высек таполі.

Войт гміны не хоча размаўляць на гэту тэму, бо гэта ваяводская, а не гмінная дарога. Сакратар гміны пацвердзіў, што гміна не плануе папраўляць дарогу ў Шчыты, паколькі знаходзіцца яна ў распараджэнні ваяводства. А вось што на гэту тэму сказаў **Уладзімір Салавей**, намеснік кіраўніка Дарожнай управы ў Бельску-Падляшскім:

— Рамонт згаданай дарогі ў значнай ступені фінансавала гміна, а Ваяводская ўправа ў 1996 годзе прызначыла на гэту мэту 100 тысяч зл., аднак гэтага было мала, каб выправіць небяспечны паварот. Мы цяпер выкупліваем ад СКРа грунты пад новую дарогу і ў перспектыве паварот будзе выпраўлены, згодна з усімі тэхнічнымі нормамі. Цяпер мы атрымоўваем грошы толькі на ўтрыманне дарог, а не на іх мадэрнізацыю. Арлянская гміна хіба таксама не прафінансуе перабудовы паварота, бо гэтай інвестыцыі няма ні ў іхных, ні ў ваяводскіх планах. Пакуль што ўсё застаецца па-старому...

Жыхары Орлі і Шчытоў маюць прэтэнзію да войта і не верацт, што будзе ў яго воля вырашыць справу крутога паварота, хаця ў іншых мясцовасцях гміны вядуцца дарожныя работы.

**Міхал Мінцэвіч**

# Патрэбны быў фактар

У 14 нумары „Нівы" ад 5 красавіка г.г. я пісаў аб недарэчнасці варшаўскіх чыноўнікаў ПКП, якія патрабавалі па 3 тыс. злотых ад гміны за 1 квадратны метр плошчы, якую мясцовы самаўрад хоча выкарыстаць пад пабудову стаянкі для аўтамабіляў TIR. Першыя перамовы войта і ЦДОКП не далі выніку. Як паведаміў старшыня Управы Гміннай рады, на сакавіцкай сесіі ў час рабочага аналізу вырашаных спраў супярэчлівая праблема рашылася. А гэта дзякуючы мясцоваму раднаму спадару Анатолю Анішчуку.

— Каб не калега Анішчук, — сказаў войт Врублеўскі, — я сам не змог бы аформіць справы ў Цэнтральнай дырэкцыі. Па дамоўленасці, якую мы заключылі, ЦДОКП дае нам плошчу бясплатна. Гміна будуе стаянку як сваю інвестыцыю, а па заканчэнні пабудовы перадае ў форме „даравізны" ва ўладанне ПКП. Значыцца, гміне патрэбны быў фактар, каб вырашыць праблему.

А няхай і так будзе! Асноўнае, што вынік перамоў — паспяховы. **(ус)**

# У Гайнаўцы бунт

[1 ☞ працяг]

жырскага транспарту, звярнулася з адозвай да ўсіх жыхароў Гайнаўшчыны, беластоцкіх паслоў і сенатараў, партыяў, цэркваў і касцёлаў, каб супрацьставіцца палітыцы, якая прычыняецца да пастаяннага пагоршвання ўмоў жыцця лакальнай грамадскасці.

У Гайнаўцы і наваколлі зараз збіраюць подпісы супраць абмежавання сувязяў Гайнаўшчыны са светам. У сваёй адозве жыхары Гайнаўшчыны заяўляюць, што калі рашэнне дырэкцыі Польскай дзяржаўнай чыгункі ў справе спынення пасажырскага транспарту не будзе адменена, не прапусцяць праз Гайнаўку ніводнага таварнага цягніка, які будзе перавозіць небяспечныя рэчывы. У хуткім часе дэлегацыя з Гайнаўкі мае намер завезці пратэст жыхароў і рэзалюцыю Гарадской рады ў Міністэрства транспарту.

**Аляксей Мароз**

# Я вярнуся ў Беларусь

**заяўляе палітычны ўцякач, 19-гадовы Ян Абадоўскі з Магілёва.**

— *Чаму Ты пакінуў Беларусь?*

— За палітычную дзейнасць і за адмову запісацца ў лукашэнкаўскі Патрыятычны саюз беларускай моладзі я быў выключаны з Магілёўскага машынабудаўнічага інстытута. Супраць мяне былі ўзбуджаны дзве крымінальныя справы за ўдзел у дэманстрацыях. Дарэчы, ужо ў Польшчы я даведаўся, што ў Магілёве ўзбудзілі і трэцюю справу — за надпісы на мурах. За тое, за што засудзілі Алеся Шыдлоўскага і Вадзіма Лабковіча.

— *Значыць, Ты ўцёкамі ратаваўся ад турмы.*

— А я ўжо ў ёй сядзеў. У арышце правёў я ноч пасля 22 сакавіка і 15 сутак пасля дэманстрацыі 2 красавіка.

— *Гэта была дэманстрацыя супраць інтэграцыі з Расеяй.*

— Так, мы неслі тады лозунгі: „Расея — гэта вайна", „Лукашэнку ў Расею", „Смерць рэжыму Лукашэнкі!" Мы, прыкладна чалавек 500, сабраліся на плошчы Якуба Коласа, дзе праходзілі афіцыйныя ўрачыстасці і пачалі скандзіраваць нашы лозунгі. Нават удалося нам дабрацца да мікрафона. Старэйшыя дзеячы стараліся пацыфікаваць настроі. Хадыка прамаўляў: „Маладыя людзі, дзякуй вам за патрыятызм, але разыдзіцеся". Тады справу ў свае рукі ўзяў Малады фронт. Мы спалілі партрэт Лукашэнкі і расейскі сцяг і пайшлі па праспекце Скарыны да расейскага пасольства. Каля цырка нас чакалі дзевяць кардонаў міліцыі. Праз гукаўзмацняльнікі яны крычалі: „Шэсце несанкцыяніраванае! Простыя грамадзяне і журналісты, разыдзіцеся"! Праз гэтыя кардоны прарвалася толькі палова нашага шэсця, але і далей з усіх бакоў была міліцыя, дык мы пачалі вяртацца назад. На плошчы Перамогі стаялі машыны з міліцыяй, з відэакамерамі. Там збілі Вячаслава Сіўчыка, Лявона Васючэнку, білі прахожых, не шкадавалі дзяўчат. Мяне ўзялі людзі ў цывільнай вопратцы, надзелі наручнікі, запіхнулі ў „Жыгулі" разам з трыма іншымі асобамі. Адзін хлопец быў моцна збіты.

— *А Ты?*

— Ну, я то так яшчэ трымаўся. У пастарунку, недалёка прэзідэнцкай рэзідэнцыі, на нас сталі складваць пратаколы. Нам інкрымінавалі: несанкцыяніраванае шэсце, спальванне расейскіх сцягоў, выкрыкі „Жыве Беларусь!" і супраціўленне міліцыі. Мы ў пратаколе пісалі, што нас бралі бандыты, не дазволілі нам схадзіць у прыбіральню, папіць вады. Калі мы гаварылі па-беларуску, на нас крычалі: „Говорите на нормальном языке!" Зранку 3 красавіка нас павезлі ў суд Савецкага раёна горада Менска, дзе суддзя дала мне 15 сутак арышту. У судзе мне не дазволілі нават адазвацца. Выслухалі толькі двух сведкаў, капітанаў міліцыі.

— *Дзе Ты праходзіў пакаранне?*

— У Спецпрыёмніку размеркавальніку на вуліцы Акрэсціны. У разлічанай на сем чалавек камеры трымалі нас удзевяцярых. Мы былі бязвывадныя, значыць, не мелі права пакідаць камеру. Кармілі такім чынам, што адзін дзень давалі паўбуханкі хлеба на чалавека і кіпяток, а другі дзень — міску кашы і кіпяток. Мне раз далі патэлефанаваць ва Управу фронта, з тым толькі, каб сказаць, што мне трэба і забаранілі гаварыць па-беларуску. Як толькі мяне выпусцілі, заехаў я дадому, памыўся і разам з бацькам селі на дызель у Оршу, а там на цягнік у Гародню. 20 красавіка пераехалі мы мяжу і адразу ў Кузніцы папрасіў я палітычнага прытулку.

— *У Польшчы яго так лёгка не даюць.*

— Да сённяшняга дня атрымалі яго чатыры грамадзяне Беларусі. Калі я быў у Варшаве ў Камітэце па справах бежанцаў, сказалі мне, што на атрыманне прытулку трэба адну сур'ёзную прычыну. У мяне назбіралася іх аж сем, дык я наконт гэтага спакойны.

— *Што з Тваёй вучобай?*

— Я падаў заяву на Беластоцкую палітэхніку. Калі ўсё будзе добра, дык восенню стану яе студэнтам.

— *Калі Ты заняўся палітыкай?*

— Я ўжо ў дванаццаць гадоў разносіў улёткі Свабодных прафсаюзаў. У 1996 годзе стаў адным з заснавальнікаў арганізацыі „Магілёўскае згуртаванне моладзі. Патрыёты Бацькаўшчыны. Рух у Еўропу", якая вяла патрыятычна-ўзгадаваўчую працу праз культуру і спорт. Нас там згуртавалася чалавек дзвесце, дык як на Магілёў, лічу, нямала. З тае пары я ўдзельнічаю ва ўсіх палітычных акцыях у Магілёве і Менску. А наша арганізацыя ўвайшла ў Малады фронт.

— *Што Цябе піхнула ў палітыку? Прыклад бацькі?*

— Мой бацька сапраўды вядомы ў Магілёве дзеяч незалежных прафсаюзаў. Але мой прыход у палітыку быў маім самастойным рашэннем. Я, проста, бачыў, як у нас людзі кепска жывуць. Мне хочацца, каб людзі жылі лепш, мару ўбачыць Беларусь свабоднай і нармальнай краінай. І такая сёння беларуская моладзь. Мы гэтага рэжыму не баімся. Мы свядома ідзем пад дубінкі і за краты, бо за намі будучыня.

— *Але Ты з'ехаў з Беларусі.*

— Я вярнуся. Рэжым Лукашэнкі не вечны. Я веру, што ён лясне і, што крымінальныя справы супраць мяне будуць спынены. Я тады і вярнуся, бо нам жыць у Беларусі.

**Інтэрв'ю ўзяў Мікола Ваўранюк**

ОБЪЕДИНЕННЫЙ СПЕЦПРИЕМНИК РАСПРЕДЕЛИТЕЛЬ УВД МИНГОРИСПОЛКОМА
КВИТАНЦИЯ 009004
16 04 1998 г.
Принято по протоколу № 1119
от 3 04 1998 г.
С гр-на Ободовский И. С.
За оказанные вытрезвителем медицинские и другие услуги руб. 525000
Дежурный по медвытрезвителю
ф., и., о., подпись
Подпись плательщика
Зак. 2270

*Пасля выхаду з арышту Ян Абадоўскі атрымаў такое вось пасведчанне. Значыць, цверазеў ён 15 сутак.*

# Меншасці, законы і штодзённая рэчаіснасць

**У гэтым годзе Еўрапейскі саюз запланаваў выдаткаваць на пабудову дэмакратычных структур у сярэдняй Еўропе 13 млн. долараў. Частка гэтай сумы мае быць прызначана на ахову правоў нацыянальных меншасцей. На практыцы адбудзецца пару канферэнцыяў, узнікне некалькі рапартаў аб сітуацыі нацменаў у паасобных краінах, а ўраднікі Еўрасаюза прадставяць справаздачы, якія пасведчаць пра іх ахвярную працу ў галіне дэмакратызацыі постсацыялістычнай Еўропы. Аднак ніхто на аснове гэтай творчасці не зразумее за што сербы ненавідзяць харватаў, мусульмане — сербаў, венгры — румынаў, туркі — балгараў. Невядома таксама хто і калі захоча выкарыстаць гэты патэнцыял нянавісці.**

У днях ад 30 красавіка да 3 траўня ў Варшаве праходзіла міжнародная канферэнцыя, арганізаваная структурамі Рады Еўропы, прысвечаная адносінам паміж меншасцямі і краінамі, якія з'яўляюцца бацькаўшчынай для іх суродзічаў. Магчыма таму менш гаварылася гэтым разам пра ромаў (цыганоў), якім найчасцей пры нагодзе такіх сустрэч адводзілася шмат часу. Арганізатары канферэнцыі паставілі тэзіс, што меншасці могуць дапамагаць у яднанні Еўропы. Падтрымалі гэтую думку армяне з Румыніі, якія заявілі, што іх і яўрэйская нацыі, якія пражываюць у большасці краін Еўропы, маглі б паспрыяць яднанню нашага кантынента эканамічным шляхам. Прапанавалі яны дамагацца ад Еўрасаюза, каб нацыянальныя меншасці разглядаліся як суб'ект міжнароднай палітыкі. Падабаліся гэтыя прапановы венгерскім дзеячам з Румыніі і Славакіі, нямецкім з Венгрыі, турэцкім з Балгарыі. Мне здаецца — аб чым я заявіў прысутным — што ўся дыскусія, арганізаваная Еўрасаюзам пра нацменаў у сярэдняй Еўропе, адбываецца дзеля таго, каб фактар іх прысутнасці не перашкаджаў у наладжванні заходняга эканамічнага і палітычнага парадку на кантыненце. Цяжка інвеставаць у такіх краінах як Боснія, Сербія, Харватыя ці Таджыкістан. Ніхто ад нацыянальных меншасцей не чакае, каб спрыялі яднанню суседніх дзяржаў. Ад іх хутчэй за ўсё чакаецца, каб сядзелі ціха і не выклікалі канфліктаў, каб сваімі праблемамі не заяўлялі пра сваю прысутнасць. Таму, як вынікала з ходу дыскусіі, большасць урадаў сярэднееўрапейскіх краін стараецца праводзіць такую палітыку, якую на практыцы маем у Беластоку. Хто скажа, напрыклад, што беларусы не маюць тут сваіх тэлеперадач, школ, радных. Дырэктар мясцовага тэлебачання Казімеж Пуцілоўскі дакажа, што ў яго фірме працуе некалькі беларусаў, прэзідэнт горада Кшыштаф Юргель — што выдзяліў 0,001% з гарадскога бюджэту на падтрымку беларускай культуры, ваявода Крыстына Лукашук — што павіншавала з Вялікаднем усіх праваслаўных. Ці ж мала доказаў, што жывем у еўрапейскім горадзе.

### Пятая калона

Сярод слоў захаплення над працэсам яднання Еўропы, пару ўдзельнікаў канферэнцыі заўважыла, што на новай мяжы Еўрасаюза ўзнікае бетонная заслона. Прыклад польска-беларускай ці польска-расейскай мяжы найлепш паказвае, якая перспектыва чакае нацыянальныя меншасці па абодвух баках гэтай заслоны. Венгры, якія жывуць у Румыніі, пачалі ўсведамляць сябе, што неўзабаве і яны будуць патрабаваць візу, каб наведаць сваіх суродзічаў у Будапешце. Такая сітуацыя можа таксама ўзнікнуць на польска-славацкай мяжы, а нават на славацка-чэшскай, таму што пра законы на граніцы Еўрасаюза будуць вырашаць не ў Варшаве, Празе ці Будапешце, а толькі ў Брусэлі.

Турак з Балгарыі заявіў, што яго меншасць заўсёды ўспрымалася балгарамі як пятая калона пакта НАТО. Зразумела, што калі б адносіны паміж гэтым мілітарным блокам і, напрыклад, Беларуссю ўскладняліся, падазронымі сталіся б палякі ў Беларусі і беларусы ў Польшчы. Патэнцыяльна сталі б яны ўсе першымі ахвярамі новага падзелу Еўропы.

### У цяні гісторыі

Складаныя адносіны паміж нацыянальнымі меншасцямі і пануючай большасцю ва ўсіх краінах Сярэдняй Еўропы з'яўляюцца вынікам гістарычных падзеяў. Дзяржаўныя межы ўзнікалі тут у выніку войнаў і ўсялякіх канфліктаў, якія ў дваццатым стагоддзі вырашаліся часта як кампраміс паміж усялякімі імперыялізмамі. Часам у выніку такога гандлю вялікія групы людзей былі адарваны ад свае нацыі і падпарадкаваны чужой адміністрацыі. У Румыніі, напрыклад, жыве каля 2 мільёнаў венграў толькі таму, што Венгрыя падчас II сусветнай вайны надта доўга трымалася Нямеччыны, а румыны пару месяцаў раней памянялі саюзнікаў, якія пасля сталі пераможцамі.

На гістарычны фактар, які паўплываў на сітуацыю ўкраінцаў у Польшчы, звярнуў увагу сакратар Саюза ўкраінцаў у Польшчы Пятро Тыма. Пераселеныя ў 1947 годзе на поўнач і захад Польшчы ўкраінцы апынуліся ў стане дыяспары. У Пярэмышлі, куды вярнулася пару тысяч украінцаў, успрымаюцца яны мясцовымі палякамі як рэваншысты. Кожны помнік, які хочуць яны цяпер паставіць для ўшанавання сваіх суродзічаў загінуўшых падчас апошняй вайны, тамашнія палякі разглядаюць як правакацыю. Тыма звярнуў увагу таксама на той факт, што пасля вайны падполлем ці салдатамі польскага войска было пацыфікаваных шмат украінскіх і беларускіх вёсак. Гэта злачынствы супраць чалавецтва, якіх віноўнікаў, згодна з міжнароднымі законамі, улады павінны шукаць і пакараць. Тым часам злачынцы жывуць сабе спакойна, атрымліваюць медалі за змаганне за дэмакратыю і незалежнасць. Былыя афіцэры бяспекі і войска, якія пацыфікавалі ўкраінскія вёскі ў Бяшчадах і на Люблінішчыне, таксама з гэтай прычыны не пачулі ў свой адрас ніводнага прыкрага для сябе слова. Судзяць іх толькі за тое, што білі акаўцаў у турмах.

Немка з Румыніі паставіла асноўнае пытанне: ці ўвогуле ёсць магчымым, каб меншасці адчувалі сябе такімі самымі грамадзянамі як большасць і ці большасць калі-небудзь пакіне думка, што іншая нацыя побач — гэта нешта такое як заноза за скурай. Але хто ж можа ведаць адказ на такое пытанне? І ці ўвогуле нейкі ўраднік з Брусэлі ў змозе зразумець тое, аб чым гаварыў Пятро Тыма.

**Яўген Міранові ч**

# Помню толькі, што цвіла чаромха...

„Чарнобыль — ніколі больш!" — пад такім лозунгам праходзіла пад пасольствам Рэспублікі Беларусь у Варшаве дэманстрацыя, прысвечаная памяці ахвяр катастрофы на атамнай электрастанцыі. У сонечную нядзелю 26 красавіка гэтага года пад пасольства прыйшло каля 22 асобаў. Гэтую сумную сустрэчу ў дзень 12 гадавіны катастрофы наладзіла Беларускае аб'яднанне студэнтаў пры дапамозе Маладзёжнага фронту. Арганізатары прадставілі сітуацыю ў Беларусі, у раёне Чарнобыля.

Янка Чурыловіч з Беларускага народнага фронту гаварыў аб драматычнай сітуацыі пасля катастрофы. Хварэе цэлае нашае маладое пакаленне, якое нарадзілася ў той час. У дзяцей адбываюцца генныя мутацыі. Адхіленні ад нормы ў структуры крыві ў беларускіх дзяцей з чарнобыльскай зоны дасягаюць 20-25 працэнтаў, а гэта з кожным пакаленнем будзе павялічвацца. Штораз часцей родзяцца калекія дзеці.

Сёлетняе надвор'е нагадвала тыя дні. Я была тады ў першым класе пачатковай школы. Помню, як ноччу з нядзелі на панядзелак разбудзіў нас сусед, які прывёз горкае і нядобрае лякарства, якое загадалі нам піць (выбух наступіў ноччу з суботы на нядзелю). Наш сусед меў інфармацыі, якіх ні я, ні мая мама не разумелі. У школе мае сябры толькі ў аўторак або ў серадзу даведаліся, што трэба нам ісці па бацькоў і ехаць у раённую амбулаторыю. Ніхто тады не разумеў да канца ў чым справа. Я сядзела з сяброўкай перад школай і помню толькі прыемны пах чаромхі, якая якраз зацвіла перад школьным будынкам.

Гэтак сама ўспамінаюць тыя дні мае аднагодкі. Ім у памяці асталося прыгожае надвор'е і горкі смак ёду, які меў абараняць нас ад радыяцыі.

Пасля катастрофы над узарваным энергаблокам збудавалі саркафаг і стварылі трыццацікіламетровую зону. Аднак электрастанцыя далей пагражае выбухам, якога вынікі могуць намнога разоў перавысіць памеры няшчасця 12-гадовай даўнасці. А і без гэтага забруджаная зямля некалькі тысяч гадоў не будзе надавацца пад жыллё, ніхто там не прыедзе, ніхто не пабудуе сабе дом.

Міраслаў Пац, старшыня БАС, на пытанне чаму дэманстрацыя адбываецца перад пасольствам Беларусі, адказаў:

— Калі беларускі бок пацярпеў найбольш ад гэтай катастрофы, мы павінны падкрэсліць гэта, паказаць, што помнім і ўшанаваць ахвяры бяздумнасці тагачасных улад. Мы прыйшлі, каб перасцерагчы ўсіх людзей, асабліва нашу родную краіну, каб памяталі, што Чарнобыль усіх нас датычыць. Гэта мы пацярпелі ад аварыі і будуць цярпець яшчэ нашы дзеці, унукі.

Удзельнікі хвілінай маўчання ўшанавалі памяць ахвяр Чарнобыля. Гэта быў час, каб задумацца над трагічным лёсам беларусаў, якіх спаткала гэтая трагедыя і над лёсам нашых нашчадкаў, якія сотні гадоў будуць цярпець ад радыяцыі.

„Чарнобыль — радыяцыя. Памірае наша нацыя", — спявае беларускі гурт. Сапраўды памірае. Чаму, за што так пакутуюць беларусы? Пытанне пакідаю без адказу.

**Кася Аўсяйчук**

# Канферэнцыя настаўнікаў беларускай мовы

**29 красавіка 1998 года ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы адбылася сустрэча настаўнікаў беларускай мовы падставовых і сярэдніх школ з метадыстам Нінай Абрамюк.**

— Настаўнік жыве да таго часу, пакуль вучыцца, — гэтымі словамі Ніна Абрамюк заахвочвала настаўнікаў павышаць кваліфікацыі на курсах, арганізаваных у час канікулаў у Менску і курсах, што адбываюцца ў Беластоку. Настаўнікі вырашылі, што добра было б арганізаваць курсы супольна, бо тэсты і пытанні да прац па беларускай мове адрозніваюцца ад тых з іншых прадметаў.

Гутарка ішла таксама пра падрыхтоўку падручнікаў для падставовых школ, будучых гімназіяў і ліцэяў. Зараз беларускай мове вучыцца 3 790 вучняў (966 у двух ліцэях) у 38 школах Беласточчыны, з якімі працуе 63 настаўнікаў. Метадыст паведаміла, што ёсць ужо новыя падручнікі для 2 і 3 класаў, павінен ужо хутка выйсці для 4 класа і зараз складаюцца для 5 і 6 класаў. Дыскусія завязалася наконт падручнікаў для 7, 8 і 9 класаў. Настаўнікі не маглі вырашыць, ці спалучаць у новых падручніках літаратуру з граматыкай. Зараз кожны настаўнік будзе вымушаны складаць праграмы навучання ў сваёй школе, але патрэбная тут падрыхтоўка і дзеля гэтага будуць арганізаваны розныя сустрэчы і курсы.

Настаўніца беларускай мовы са школы н-р 6 у Гайнаўцы Тамара Грыгарук расказала настаўнікам пра ўражанні ад працы ў камісіі цэнтральнага этапу Прадметнага конкурсу па беларускай мове і літаратуры (для падставовых школ), якой членам яна з'яўлялася.

— На 10 фіналістаў 8 стала лаўрэатамі, якія будуць прыняты ў сярэднія школы без экзаменаў, — сказала настаўніца. — Вучні наогул былі падрыхтаваны выдатна, вусныя адказы здавальнялі. Больш увагі трэба звярнуць на граматыку.

— Рыхтуючы вучняў да конкурсу трэба больш увагі адводзіць граматыцы, тады і будуць рэзультаты, — гаварыла Ніна Абрамюк, якая падрыхтавала двух пераможцаў — Івону Асташэўскую (I месца) і Ірэну Абрамюк (II месца). — 11 і 18 мая дзве групы вучняў падставовых школ (90 асоб), галоўным чынам удзельнікі прадметнага конкурсу, паедуць на экскурсію ў Беларусь.

Настаўнікі атрымалі матэрыялы пра новыя метады навучання ў розных еўрапейскіх краінах, каб маглі падрыхтавацца да дыскусіі ў час чарговай сустрэчы, у сувязі з прадбачанай рэформай школьніцтва і зменамі ў праграмах навучання беларускай мовы.

**Аляксей Мароз**

# Сустрэча моладзі Еўропы „Гайнаўка '98"

**Ад 30 красавіка да 2 мая г.г. у Гайнаўцы адбываліся спатканні моладзі з Ванешборга, што ў Швецыі, Свіслачы і Гайнаўшчыны, у час якіх арганізаваліся культурныя мерапрыемствы, а маладыя людзі дыскутавалі наконт дэмакратыі, экалогіі і праблем яднання Еўропы.**

30 красавіка ў час першай сустрэчы моладзі з Ванешборга і вучняў сярэдніх школ Гайнаўкі, якая адбылася ў зале магістрата, дыскусія тычылася дэмакратыі і спосабаў праўлення ў розных краінах Еўропы. Маладыя людзі звярталі ўвагу на адмоўныя бакі палітычнага жыцця, нецалерантнасць у адносінах да розных меншасцей, шукалі спосабаў ліквідацыі ўсялякіх паталогій. Выявілася, што моладзь не падтрымлівае безагаворачнага яднання Еўропы. Пасля арганізаваны быў семінар на тэму „Сярэдні і малы бізнес шанцам для маладога пакалення", у час якога шведская моладзь гаварыла, як маладыя асобы могуць уключыцца ў гаспадарчае жыццё, як выкарыстаць розныя ідэі і планы. Гайнаўяне пазнаёміліся сяброўса Швецыі са сваімі думкамі наконт бізнесу. Вечарам у Белавежы арганізавалася артыстычная частка, у час якой паказалася моладзь з Гайнаўшчыны і Ванешборга. Былі танцы, спевы і рок-музыка.

Першы дзень мая багаты быў на артыстычныя мерапрыемствы. Па горадзе прайшоў духавы аркестр Комплексу прафесійных школ у Гайнаўцы, які пасля ў парку даў канцэрт перад гарадской публікай. Пазней танцавалі вучні з маладзёжнага калектыва Гайнаўскага дома культуры. З беларускай песняй выступілі вучні II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання. Публіка магла паслухаць і шведскую моладзь, якая выступіла з аўтарскай песняй, фальклорнай музыкай, рок-музыкай і танцамі. Спявала таксама і моладзь са Свіслачы.

Калі маладыя супольна праводзілі час, старэйшыя госці пабачылі ачышчальню сцёкаў, новую бальніцу і Грамадскі дом узаемадапамогі. Супрацоўніцтва паміж Гайнаўкай і Ванешборгам працягваецца ўжо некалькі гадоў і калі шведская дэлегацыя апошні раз была ў Гайнаўцы, усе згаданыя аб'екты былі яшчэ ў пабудове. У час урачыстага пасяджэння Гарадской рады было падпісана пагадненне паміж уладамі Гайнаўкі і Ванешборга, якое тычыцца культурнага, экалагічнага і гаспадарчага супрацоўніцтва і кантактаў паміж моладдзю. Улады горада далі таксама праект пагаднення для дэлегацыі са Свіслачы. Бурмістр горада Ядвіга Рудзінская-Патэюк заявіла, што ў планах маецца пастаяннае арганізаванне ў Гайнаўцы „Сустрэч моладзі Еўропы", а ў наступных гадах ужо ў больш пашыраным складзе. Вечаркам моладзь са Швецыі дала канцэрт у Старым Беразове, дзе сустрэлася з моладдзю Гайнаўскай гміны.

2 мая было днём экалагічнай адукацыі, а сустрэчы праходзілі ў Белавежы. Была дыскусія наконт аховы прыроды і супрацоўніцтва з еўрапейскімі арганізацыямі. Пасля былі экскурсіі па Белавежскай пушчы і вогнішча ў Тапіле. Вечарам моладзь са Швецыі і Беларусі падалася дамоў.

**(ам-з)**

# Турнір беларускай моладзі

**30 красавіка г.г. у Гайнаўскім доме культуры адбыўся „Турнір беларускай моладзі — Гайнаўка '98", арганізаваны Звязам беларускай моладзі. Змагацца прыехалі чатыры каманды — з Бельскага і Гайнаўскага белліцэяў, Беларускага аб'яднання студэнтаў з Варшавы і Брацтва праваслаўнай моладзі з Беластока.**

Моладзь рыхтавалася да турніра ўжо раней. БАСаўцы выступілі ў вядомых белых кашулях з назовам сваёй арганізацыі. Ліцэісты з Гайнаўкі зрабілі транспарант з лозунгам „Граблі", які разам з сапраўднымі граблямі памагаў у змаганні. Вылучаліся таксама літарай „Г" (ад Гайнаўкі або „Граблёў"). Каманды белліцэяў прыйшлі са сваёй публікай, якая памагала ім у змаганні. Настаўнікі таксама не засталіся збоку і воплескамі дапамагалі сваім вучням.

Падчас першых змаганняў найважнейшай была хуткасць. Пераможцамі станавіліся тыя, якія найхутчэй з'елі яблык (у посудзе з вадой), выпілі кубак малака ці на саматканых высцілках перапаўзлі праз залу. Большае зацікаўленне публікі выклікаў выбар найпрыгажэйшай дзяўчыны і найбольш стройнага хлопца змаганняў. Аб пераможцы вырашала сама публіка, галасуючы пры дапамозе раней падрыхтаваных білетаў. Адны выступалі ў сукенках, іншыя ў рабочай вопратцы, але ўсе ўзнагароджваліся воплескамі.

Калі пачаліся спевы пра Яся, які косіць канюшыну, хлапцоў, якія распрагаюць коней, удзельнікам турніра дапамагалі гледачы. Пасля выступалі найлепшыя танцоры, а ацэньвала іх журы. Шкада толькі, што ацэнка камісіі была засакрэчана да канца змаганняў. Можна было пабачыць таксама, як апранаецца моладзь у Польшчы і Беларусі. Маладыя даказвалі, што тым, якія носяць з сабой партрэт Лукашэнкі, вопратка і не патрэбная. Апошнія спаборніцтвы патрабавалі сілы. Хлопцы ажно чырванелі, калі змагаліся на руку, або прыкідваліся, што яны рыцары на конях. Калі мастакі стваралі карціны, найразумнейшыя адказвалі на пытанні, звязаныя з жыццём беларусаў у Польшчы і дзейнасцю Брацтва праваслаўнай моладзі.

Пасля перапынку абвешчаны былі рэзультаты змаганняў. Пераможцам стаў Гайнаўскі белліцэй, які ў якасці галоўнага прыза атрымаў разьбу зубров у дрэве. На другім месцы апынуўся Бельскі белліцэй, а на трэцім варшаўскі БАС. Хаця Брацтва праваслаўнай моладзі з Беластока было на чацвёртым месцы, таксама атрымала ўзнагароду.

Сустрэча моладзі закончылася канцэртамі гайнаўскага гурту „The Dvery" і гарадоцкай „Брагі".

**(ам-з)**

4 мая 1998 года на 66 годзе жыцця пасля доўгай і цяжкай хваробы памёр старшыня Гайнаўскага аддзела БГКТ **Сяргей ХАРКЕВІЧ**.
Самыя глыбокія спачуванні сям'і і блізкім Нябожчыка выказваюць Праўленне аддзела БГКТ і Прэзідыум Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы.

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Памятны здымак у рэдакцыі „Нівы". „Зорку" наведалі дзеткі з ПШ н-р 4 у Беластоку.* Фота А. МАКСІМЮКА

## „Зорцы" сорак гадоў

У навагоднім нумары „Зоркі" мы аб'явілі конкурс, у якім ставіліся пытанні пра нашу газету. На жаль, на конкурс адгукнулася мала школьнікаў. Як гаварылі пазней многія дзеці, зусім невядомыя ім весткі пра „Зорку", бо пра яе мінулае ніколі не гаварылася на ўроках беларускай мовы.

У гэтым годзе асаблівая нагода, каб пагутарыць пра гэта — **„Зорцы" сорак гадоў**. Наша дзіцячая старонка выходзіць з 1958 года. Нарадзілася яна два гады пасля ўзнікнення „Нівы". Першым рэдактарам „Зоркі" была журналістка **Вера Валкавыцкая**. „Зорку" рэдагавалі таксама вядомыя сёння ў Польшчы літаратары — **Сакрат Яновіч** і **Уладзімір Паўлючук.**

Самы вялікі ўплыў на фарміраванне і развіццё „Зоркі" мела рэдактар **Яніна Чэрнякевіч**, якая рэдагавала нашу старонку аж трыццаць гадоў. Ад 1990 да 1994 года Яніну Чэрнякевіч замяніла паэтка **Міраслава Лукша**.

Апошнія пяць гадоў „Зорку" складае ніжэйпадпісаная. Восенню 1995 г. пачаліся „Сустрэчы Зоркі" — мастацка-журналісцкі рух, які дзейнічае пры нашай рэдакцыі ў рамках праграмы „Зорка", якой апякуецца Польскі фонд дзяцей і моладзі. У выніку дзейнасці праграмы пашырылася супрацоўніцтва з чытачамі. Сярод іх вылучыліся выдатныя карэспандэнты-журналісты, мастакі, тэатральныя індывідуальнасці, літаратары. Варта дадаць, што суарганізатары „Сустрэч Зоркі" фінансуюць узнагароды для ўдзельнікаў Зорчыных конкурсаў і крыжаванак.

З нагоды саракагоддзя нашай старонкі просім нашых старэйшых чытачоў, каб падзяліліся сваімі ўражаннямі і ўспамінамі ад чытання „Зоркі" ў свае дзіцячыя гады або зараз.

**Ганна КАНДРАЦЮК**

PS. Сёння друкуем допіс нашага старэйшага сябры, аўтара шматлікіх адрэзкаў „Вясёлага куточка" Андрэя Гаўрылюка.

# Пішуць школьнікі

Загадкі

### Які гэта птах?

Ён бяскрылы — гэты птах.
Пралятае па лугах,
Па палях, лясах імчыцца,
І ніколі не садзіцца.
Наляціць ён на дубы,
Страсяне іх за чубы.
Хоць і голасу не мае,
А рагоча і спявае.

(Вецер)

### Хто гэта?

Ён у шапачцы чырвонай,
Лечыць гай і бор зялёны,
Пападае на абед
Яму шкоднік карaед.

(Дзяцел)

### Хто стаіць?

Каля нашай хаты птушка
На адной назе стаіць.
Перад ёй — з вадой кармушка,
Хоць яна не ўмее піць.

(Жораў каля калодзежа)

**Даслалі чытачы са школы ў Чыжах**

## Я пра „Зорку"...

Я — здаўна чытач „Зоркі", і ніколі не прапускаю яе ў „Ніве", чытаю штотыдзень. Не хаваецца яна між іншымі старонкамі, хоць невялікая „вагою", але важкая допісамі маладых карэспандэнтаў, творчасцю маладых паэтаў і празаікаў, працай Ганны Кандрацюк. Калі я бяру „Зорку" ў рукі, уцякаюць ад мяне ўсе клопаты і турботы, а навейваюцца ўспаміны і расце радасць у сэрцы. Як добра, што ёсць людзі, якія не цураюцца свайго, якія ад калыскі вучацца шанаваць і ўзмацняць роднае! Знаёмімся з імі, цешымся, асабліва тыя чытачы „Нівы", якіх лёс закінуў далёка ад роднага дому.

**Андрэй ГАЎРЫЛЮК, Ольштын**

## Лёгкі хлеб

***(беларуская народная казка)***

Касіў на лузе касец. Змарыўся і сеў пад кустом адпачыць. Дастаў торбачку, развязаў і пачаў есці.

Выходзіць з лесу галодны воўк. Бачыць — касец пад кустом сядзіць і нешта есць.

Падышоў да яго воўк:

— Ты што ясі, чалавеча?

— Хлеб, — адказвае касец.

— А смачны ён?

— Дзіва што смачны!

— Дай мне пакаштаваць.

— Калі ласка!

Адламаў касец кавалак хлеба і даў ваўку. Спадабаўся ваўку хлеб. Ён і кажа:

— Хацеў бы я кожны дзень хлеб есці, але дзе мне яго даставаць? Парай, чалавеча!

— Добра, — кажа касец, — навучу цябе, дзе і як хлеб даставаць!

І пачаў ён вучыць ваўка:

— Перш-наперш трэба зямлю ўзараць...

— Тады і хлеб будзе?

— Не, браце, пачакай. Потым трэба забаранаваць...

— І можна хлеб есці? — замахаў воўк хвастом.

— Што ты, пачакай яшчэ. Раней трэба жыта пасеяць...

— Тады будзе хлеб? — аблізнуўся воўк.

— Не яшчэ. Дачакайся, пакуль жыта ўзыдзе, халодную зіму перазімуе, вясной вырасце, потым закрасуе, потым пачне наліваць зярняты, потым спець...

— Ох, — уздыхнуў воўк, — вельмі ж доўга чакаць. Але цяпер-то ўжо я наемся хлеба ўволю!

— Дзе ж там наясіся! — перапыняе касец. — Рана яшчэ. Спачатку спелае жыта трэба зжаць, потым у снапы звязаць, снапы ў бабкі паставіць. Вецер іх правее, сонейка прасушыць, тады вязі іх на ток...

— І есці хлеб буду?

— Які нецярплівы! Спачатку трэба снапы абмалаціць, зярняты ў мяшкі сабраць, мяшкі ў млын завезці ды мукі намалоць...

— І ўсё?

— Не, не ўсё. Муку трэба замясіць у дзяжы і чакаць, пакуль цеста падыдзе. Тады ў гарачую печ пасадзіць.

— І спячэцца хлеб?

— Але, спячэцца хлеб. Вось тады і наясіся яго, — скончыў касец навуку.

# Вершы Віктара Шведа

## Уставай, сыночак!

— Уставай, сыночак,
Ты мой абібоку,
Бачу, зноўку хочаш
Спазніцца на ўрокі.

— Не журыся, мама,
Школа менавіта
Паводле праграмы
Увесь дзень адкрыта.

## Эсперанта

— „Эсперанта” — што гэта? —
Запытаў тату Вова.
— Вядомая свету
Міжнародная мова.

— А якую ж краіну
Можна мець на прыкмеце?
— З гэтай моваю, сыну,
Няма краіны ў свеце.

# Каза і дзяўчынка

Жылі аднойчы каза і дзяўчынка. Дзяўчынка павяла пасвіць казу каля ракі. Абгрызла каза два кусты дзікай парэчкі-смародзіны. Не наелася каза.

— Хачу я бярозавых лісточкаў, — сказала яна. Павяла дзяўчынка казу ў лес. Абгрызла тры бярозкі. Не наелася каза. — Хачу я свежай травы.

Накасіла дзяўчынка казе свежай травы. З’ела каза траву:

— Хачу яшчэ чагосьці.

— Што я табе дам? — гаворыць дзяўчынка. — Больш у мяне нічога няма.

Нарвала дзяўчынка ў мяшок палыну і дала казе. Пажавала каза горкі палын і выплюнула.

— Ну, цяпер то я наелася.

**Паўліна КАНДРУСІК,**
**IV „д” кл. ПШ н-р 3 у Бельску**



*Беларуская група з ПШ н-р 11 у Беластоку з настаўніцай Алінай Ваўранюк завітала ў беларускае прадшколле.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Міфы старой Беларусі

**27. Чур**

Чур гэта родавае бажаство, продак, роданачальнік, які і пасля смерці ахоўвае членаў сям’і ад усялякай нячыстай сілы. Праводзілася рысу вугалем, крэйдай ці чым іншым на зямлі ці падлозе, за якую ніякая нячыстая сіла не можа пераступіць. Чур не дазваляў іншым духам пранікаць за рысу, за сваю мяжу. Адам Багдановіч лічыць, што гэтая думка падмацоўваецца сэнсам іншага беларускага дзеяслова — „адчурацца”, што наогул азначае — не кранацца, лічыць сябе не маючым дачынення, а ў прыватнасці адмовіцца ад бацькаўшчыны: „адчурацца ад хаты і таты”.

Чур абараняе межы зямельных уладанняў. Пагоркі ці невялікія курганкі, насыпаныя на межах палеткаў як межавыя знакі, знаходзяцца пад асаблівую ахову Чура. Чур з’яўляецца і хатнім пенатам, і тады кожны дом, кожная сям’я мае свайго Чура, каб бараніў яе, адганяў дэманаў змроку ад хатняга ачага. Другая форма слова „чур” гэта „шчур”, і ад яго слова *прашчур* — роданачальнік, продак.

# Юрка Лістапад

Юрка Лістапад можа быць узорам беларускага патрыятызму. Яго волі працы для Бацькаўшчыны не знішчылі ні турмы, ні канцлагеры, ні пагроза смерці. Калі іншыя нашы нацыянальныя героі ішлі на кампрамісы з усялякімі акупантамі, Юрка Лістапад падпарадкаваў сваё жыццё аднаму прынцыпу, які называўся „незалежная Беларусь”.

Нарадзіўся ён у красавіку 1897 года ў Варкавічах на Случчыне. Да першай сусветнай вайны паспеў яшчэ скончыць настаўніцкую семінарыю. У 1920 годзе быў адным з лідэраў Беларускай рады Случчыны і кіраўніком Слуцкага паўстання. У Савецкай Беларусі адкінуў усе прапановы палітычнай кар’еры і пачаў працаваць сярод свайго люду. Разам з іншымі настаўнікамі арганізаваў агульнаадукацыйныя курсы для сялян, падчас якіх шмат увагі адводзілася беларускай гісторыі. У 1925 годзе Лістапад і шмат яго сяброў былі арыштаваны і абвінавачаны ў дзейнасці ў „контррэвалюцыйнай арганізацыі”. Лістапад быў асуджаны на 5 гадоў турмы. Два гады пасля яго вызвалілі. Але не паспеў ён раскрунуцца на свабодзе, калі бальшавікі арыштавалі яго за дзейнасць у новай, прыдуманай імі, арганізацыі — „Саюзе вызвалення Беларусі”. У студзені 1934 года саветы асудзілі яго на 8 гадоў пабыўкі ў канцлагеры за стварэнне Беларускага нацыянальнага цэнтра. Не дачакаўся Юрка Лістапад вызвалення. Быў расстраляны ў 1938 годзе. Пасля смерці Сталіна камуністы прызналіся, што большасць абвінавачанняў, якія ставіліся Лістападу, былі імі прыдуманы. Знішчылі яны беларускага патрыёта за тое, што не маглі яго купіць за ніякую цану, не маглі нічым перапалохаць, ні акампраметаваць. Але такі быў лёс усіх патрыётаў. Перажывалі найчасцей тыя, што нізка кланяліся і дзякавалі ўсім акупантам. Таму цяпер так сумна выглядае беларуская рэчаіснасць.

# Польска-беларуская крыжаванка № 20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Faks | | Koło | Ser | Mekka / Pastwisko | ▼ | Balet | ▼ | Rada | |
| ► | | ▼ | ▼ | Piekarz ► / Bas | ▼ | | | | ▼ |
| Mrówkojad | Rybak ► | | | ▼ | | | Ar | | |
| | ► | | | | | | ▼ | | |
| 📖 | 📖 | | Saar | ► | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 16:**

Храп, яр, імя, храбустанне, удар, ржышча, ціша, грак, банкір, ар, дзіця, хрушч, рада, жаба, пурга, вятрак, ражкі, іншы, меч, аер.

Узнагароды, **касету Віктара Шалкевіча і спеўнік з шэдэўрамі беларускіх рок-гуртоў**, выйгралі: **Ева Загон**, **Павел Белаказовіч**, **Пятро Семянюк** і **Пятрусь Янкоўскі** з Бельска-Падляшскага, **Каміля Карповіч**, **Уршуля Гегель** і **Сільвія Борыс** з Гарадка, **Рафал Лаўрыновіч**, **Дарота Барташэвіч** з Махнатага і **Кася Леанюк** з Гайнаўкі. Віншуем!

Узнагароды можна ўзяць у рэдакцыі „Нівы” або чакаць іх у сваёй школе.

Узнагароды спансаравала БАС (Беларускае аб’яднанне студэнтаў у Польшчы).

---

Задумаўся воўк, потым пачухаў лапай патыліцу і кажа:

— Не! Гэтая работа занадта марудная і цяжкая. Лепш парай мне, чалавеча, як лягчэй ежу здабываць.

— Ну што ж, — кажа касец, — калі не хочаш цяжкі хлеб есці, параю табе лёгкі. Ідзі на выган, там конь пасецца.

Пайшоў воўк на выган. Убачыў каня:

— Конь, конь! Я цябе з’ем.

— Што ж, — кажа конь, — еш. Толькі спачатку здымі з маіх ног падковы, каб не ламаць табе зубы аб іх.

— І то праўда, — згадзіўся воўк.

Нагнуўся ён падковы здымаць, а конь як стукне яму капытом у зубы...

Перакуліўся воўк ды ходу.

Прыбег да рэчкі. Бачыць — на беразе гусі пасуцца. „Ці не з’есці мне іх?” — думае. Потым і кажа:

— Гусі, гусі! Я вас з’ем.

— Што ж, — адказваюць гусі, — еш. Але спачатку зрабі нам адну паслугу перад смерцю.

— Якую? — пытаецца воўк.

— Паспявай нам, а мы паслухаем.

Сеў воўк на купіну, задраў галаву і давай выць. А гусі крыламі — мах, мах! Узняліся і паляцелі.

Злез воўк з купіны, правёў гусей вачамі і пайшоў далей ні з чым.

Ідзе ды лае сябе апошнімі словамі: „Ці ж не дурань я, га? Навошта я згадзіўся спяваць гусям? Ну, цяпер, каго ні сустрэну — з’ем!”

Толькі ён так падумаў, бачыць — на полі чарада авечак пасецца, а пастух спіць. Нагледзеў воўк у чарадзе самага большага барана, схапіў яго і кажа:

— Баран, баран! Я цябе з’ем.

— Што ж, — кажа баран, — такая мая доля. Але каб не мучыцца мне доўга ды і табе каб не ламаць зубы аб мае старыя косці, стань лепш вунь у той лагчынцы і разяў рот, а я ўзбягу на ўзгорак, разганюся і сам ускочу табе ў рот.

— Дзякуй за параду, — сказаў воўк. — Так і зробім.

Стаў ён у лагчынцы, разявіў пашчу і чакае. А баран узбег на горку, разагнаўся ды — трах! — рагамі ваўка ў галаву. Аж іскры пасыпаліся з вачэй у ваўка, свету ён не ўбачыў.

Ачухаўся воўк, пакруціў галавою і разважае:

— Цікава: з’еў я яго ці не?

А тым часам касец скончыў работу і ідзе дахаты.

Пачуў ён ваўковы словы і кажа:

— З’есці не з’еў, але паспытаў лёгкага хлеба.



Талон „Зоркі” № 20
17.05.1998

# Местачковая газета

**„Газета Слонімская" — пад такім загалоўкам выходзіла ў Слоніме ў 1938 г. газета, якою кіраваў Сяргей Новік-Пяюн, а рэдагавала выданне жонка паэта, Галіна. Газеты ў той час, да прыходу бальшавікоў, паказалася дзесяць нумароў. Выпуск „Газеты Слонімскай" узнавіўся 24 красавіка 1997 г. пад кіраўніцтвам Віктара ВАЛАДАШЧУКА, з якім мы гутарым пра пытанні выпуску незалежнай газеты на правінцыі.**

***— Якія былі пачаткі ўзнаўлення вашай газеты?***

— Першы нумар выйшаў тыражом у 3000 паасобнікаў у друкарні ў Слоніме. Зразу пасля яго выхаду нам забаранілі яе там друкаваць — без ніякіх тлумачэнняў. Мы былі вымушаны перанесці друк у суседнюю Брэсцкую вобласць у горад Баранавічы. Першыя нумары рабіліся на камп'ютэрнай тэхніцы газеты „Навіны" ў Мінску, потым у мяне на кватэры ў Слоніме, а нарэшце прыдбалі мы асобнае памяшканне, сваю тэхніку і, на працягу года, стварыўся рэдакцыйны калектыў. Наш тыраж за год часу дацягнуў да 7000 экземпляраў. Сталася аднак так, што мясцовыя ўлады ў асобе мэра горада забаранілі распаўсюджваць газету ў крамах — гэта ўдарыла нас на якіхсьці 2000 экземпляраў. Мы вымушаны былі стварыць сетку распаўсюджвання праз прыватныя асобы. Цяпер у нас разыходзіцца 6000 тысяч паасобнікаў „Газеты Слонімскай". Распаўсюджваецца яна ў горадзе Слоніме і раёне — жыве ў гэтых адміністрацыйных адзінках каля 80 тыс. людзей.

***— Які абсяг тэмаў у газеце?***

— Ён вельмі шырокі. Мы газета інфармацыйная, гістарычная, літаратурная, палітычная, рэкламная. Стараемся рабіць местачковую газету, якая была б цікавай для ўсіх жыхароў — ад інтэлігента да рабочага. У нас шмат тэматычных старонак: дзіцячая, літаратурная, ваенная, маладзёжная, старонка аўтааматараў.

***— Як вы ацэньваеце запатрабаванне на сваю газету ў мястэчку, якое не з'яўляецца нават абласным цэнтрам?***

— Яно вялікае, бо калі правесці падлік, дык акажацца, што на нашу газету падпісваецца, прыкладна, кожная пятая сям'я. У той жа час газета „Навіны" трапляе ў Слонім у колькасці 30 экземпляраў. Няма тут сумнення, хто больш уздзейнічае на грамадскую думку.

***— Як выглядаюць суадносіны вашай газеты з адпаведнай ёй мясцовай афіцыйнай газетай?***

— Канкурэнцыя вельмі вострая. Да з'яўлення „Газеты Слонімскай" афіцыйная раённая газета выходзіла тыражом недзе ў 6000 паасобнікаў. Калі з'явіліся мы, прайшоў месяц, наступны, мэр горада выклікаў рэдактара раёнкі і заявіў яму: „Калі ваш тыраж будзе меншы ад гэтай прыватнай газеты, то я яго здыму". Яны вымушаны штучна павышаць тыраж. Адбываецца гэта так, што калі мы набліжаемся сваім тыражом да афіцыйнай газеты, мэр звоніць у калгас і, прыкладна, кажа: „Слухай, Мар'яновіч, падпішы сваіх калгаснікаў на газету".

***— Як ваша газета выжывае?***

— Пачаткова я атрымаў пазыку ад мясцовага прадпрымальніка, які выдзяліў на газету пэўную суму грошай. За яе выйшлі першыя нумары і была закуплена рэдакцыйная тэхніка. Прадпрымальнік гэты дапамагае нам і надалей. Цяпер грошы зарабляем таксама самастойна. Да нас паступае 15-20 млн. беларускіх рублёў у месяц ад рэкламы. Рэкламай стараемся пагасіць выдаткі на паперу і арэнду памяшкання. Наша газета рэнтабельная, але рэнтабельнасць вельмі малая. Каб павысіць зарплаты супрацоўнікам, нам трэба звяртацца за грантамі. І гранты такія мы атрымліваем.

***— Якія паводле вас галоўныя праблемы ў ажыццяўленні незалежнай газеты?***

— Рэч у тым, што перашкоды адны і тыя ж. Мэр горада сказаў майму знаёмаму: „Калі б Валадашчук прыйшоў да мяне, пакланіўся, сказаў так і так, дык я яму ў нечым і дапамог бы". А мой погляд такі, што мэравая дапамога мне непатрэбна — хай толькі не перашкаджае. Друк газеты ў суседняй вобласці — гэта лішнія выдаткі. Адміністрацыйнае абмежаванне распаўсюджвання — зноў лішнія выдаткі, бо трэба шукаць іншыя шляхі. Не прайшло і года, калі пачалі мы выпуск газеты, а ў нас было 5-6 падатковых праверак. Паводле нашых інфармацый, начальніца падатковай інспекцыі атрымала заказ любым шляхам нешта на нас знайсці і задушыць. Начальніца гэтая мае пад сабой 60 супрацоўнікаў, а праверку рабіць у друкарні ў Баранавічах двойчы ездзіла сама. Гэта пра нешта сведчыць. Нічога, дарэчы, на нас там не знайшла.

Газета, якая выходзіць у мястэчку, дзе кожны кожнага ведае, не павінна біць чалавека і знішчажаць яго, бо ўсе гэтыя людзі — нашы чытачы. Мы ўжо гэта спрактыкавалі. Кола нашых чытачоў — ад камуністаў да самых радыкальных радыкалаў. Ну і праз год дацягнулі тыраж да сямі тысяч. Гэта ж нядрэнна?

***— Гэта вельмі-вельмі прыстойны вынік. Дзякую за размову.***

Гутарыў
**Аляксандр Максімюк**

---

<u>Беларускі каталіцкі часопіс</u>

# „Наша вера"

**Калі Алесь Тумоўскі падаўся ў кляштар, у „Свабодзе" Алесь Аркуш напісаў пра гэта інфармацыю. Некаторыя жартавалі потым: дык што, кляштар — выйсце для свядомых беларусаў?**

Размова з маладым манахам грэка-католікам змешчана ў 1(4) нумары каталіцкага беларускага часопіса „Наша вера". Галоўным рэдактарам яго з'яўляецца вядомая пісьменніца Хрысціна Лялько, у рэдакцыйнай радзе — Мар'ян Дукса, Ірына Жарнасек, Алесь Жлутка, Аліна Новікава і Юры Туронак. Часопіс заснавалі Катэдральны касцёл Імя Найсвяцейшай Марыі Панны ў Мінску і Дабрачынны грамадскі фонд „Маці Божая Фацімская", а выдаецца ён накладам 2000 асобнікаў. Знайсці ў ім можна тэксты, якія датычаць падстаў каталіцкага катэхізісу (рубрыка „Роздум аб веры" — развадуманні пра разуменне Тройцы), жыццяпіс рымскага папы Яна Паўла II, гісторыі і апісання храмаў, цудадзейных ікон. У рубрыцы „Постаці" — выхадзец з Беларусі (народжаны ў Юндзілове на Браслаўшчыне), будучы біскуп і апостальскі адміністратар Беластоцкай архідыяцэзіі, а затым арцыбіскуп-мітрапаліт Беластоцкі Эдвард Кісель (тэкст студэнта Новаполацкага універсітэта). Яўген Шунейка ў эсэ „Талент самаахвярны і светлы" аналізуе жыццё і творчасць мастака і кампазітара Напалеона Орды, паўстанца 1830 года, дырэктара Італьянскай оперы ў Парыжы, які пакінуў у сваіх малюнках тую Беларусь, якая ўжо забытая або забываецца. Старэнькі маэстра вандраваў па сцяжынах роднага краю, і „Беларусь Напалеона Орды як фенікс праступае праз абезабліčаны бетон сучасных гарадоў, вырастае светлымі абрысамі святыняў, сцертых вандаламі XX стагоддзя з твару зямлі". Цяпер музыка Н. Орды гучыць на канцэртах, мастакі Берасцейшчыны ладзяць пленэры па мясцінах, звязаных з яго вандроўкамі і жыццём.

Алесь Жлутка ў рубрыцы „Да юбілею 2000 Хрысціянства" прапануе чарговы адрэзак свайго грунтоўнага артыкула „Заходняе хрысціянства на Беларусі", пра працэс складання славянскай пісьмовасці і абраду на мараўскіх землях, кірыла-мяфодзіеўскую традыцыю ў паўднёвых славян, пашырэнне і лёс славянскага абраду ў заходніх славянаў.

Прапануюцца ўвазе чытача вершы Ірыны Багдановіч (перакладчыцы твораў А. Міцкевіча), Міколы Мятліцкага і працяг аднаактавай п'есы Ірыны Жарнасек, — вядомых беларускіх творцаў, памяшчаюцца разам са здымкамі кароткія весткі пра іх дасягненні. Яўген Сахута ў цыкле „Традыцыя" прадстаўляе „Узоры вясны і сонца" — пісанкі, спосабы і рэцэпты крашэння велікодных яек і традыцыйныя матывы малюнка на іх.

У рубрыцы „Кантэкст" — поўнае трагізму апавяданне Максіма Гарэцкага „Рускі" і роздумы доктара Алега Пятровіча — „Чалавек «апошніх дзён». Што такое праўда". М. Гарэцкі апісвае, як у паводзінах беларускага салдата адлюстравалася жорсткая і бескампрамісная ўнутраная барацьба паміж дабром і злом. А. Пятровіч разважае: „Адзінота і ізаляванасць асобы, востры дэфіцыт духоўных адносінаў паміж людзьмі з'яўляецца адной з асноўных прыкмет чалавека «апошніх дзён». (...) Вобраз беларускага салдата — гэта сімвалічны вобраз усяго беларускага народа, якому не хапае свядомасці, каб рэальна асэнсаваць сваё месца і становішча ў свеце, і гэтая нявызначанасць губіць і працягвае губіць наш народ па сённяшні дзень (...). Гэта не толькі вобраз чалавека «апошніх дзён», але адначасова вобраз апошняга прадстаўніка свайго народа ў той момант, калі ад яго залежыць, ці стануць сённяшнія дні апошнімі днямі на зямлі для яго і ўсяго народа Беларусі. Ці здолее ён учыніць сапраўдныя «плады дастойнага пакаяння», каб напрыканцы XX ст. атрымаць выратаванне, будучыню і годнае жыццё ў трэцім тысячагоддзі ад нараджэння Хрыста для сябе і свайго народа"...

Было б карысна, калі б была магчымасць, каб гэты цікавы хрысціянскі часопіс трапіў і да католікаў-беларусаў на Беласточчыне.

**Міра Лукша**

---

# А што, як ужо не стане беларускай мовы?

Разважма гэткую сітуацыю, калі б беларускі народ — за сачавічную палійку — запісаў у сваёй канстытуцыі, што адзінай яго мовай ёсць расійская (руская), а кожнага, хто гутарыць інакш, трэба высылаць у канцлагер...

Перш за ўсё напомнім, што — акрамя царскіх імперыялістаў ды малапісьменных — увесь навуковы свет лічыць беларускую мову менавіта мовай, а не заходнім дыялектам рускай мовы. Ужо Адам Міцкевіч пісаў, што яна найбольш гарманічная і найменш сапсаваная сярод усіх славянскіх моў. Руская, украінская ды балгарская і сербская мовы маюць багата турэцкіх слоў, а славенская і заходнеславянскія — нямецкіх.

Калі мова ўжо мёртвая, у такім выпадку, маючы слоўнік ды шмат тэкстаў, усё роўна яна неяк жыве, таму што займаюцца ёю вучоныя. Напрыклад, этруская мова мае мала тэкстаў, а на курсы з'явілася ў Рым больш кандыдатаў чым было месцаў. А беларуская мова мае цяпер столькі друкаваных выданняў (кніг ды артыкулаў), што і за сто гадоў усяго не прачытаеш.

Стараяўрэйская мова (іўрыт) больш як дзве тысячы гадоў была мёртвай, а цяпер зноў жыве як нацыянальная мова Ізраіля. Так сама і карнвалійская мова (паўднёва-заходняя Англія), якая належыць да ліку брытанскай групы кельцкіх моў, памёрла ў XVIII стагоддзі, а цяпер увайшла ў праграму тамашніх школ.

Ці трэба быць **вялікім** народам, каб мець права на сваю мову? Рэспубліка Науру на Ціхім акіяне мае дзесяць тысяч жыхароў ды сваю наурскую дзяржаўную мову. Ісландыя налічвае 250 тысяч жыхароў (менш як Беласток) і мае сваю ісландскую дзяржаўную мову. Мальта мае 350 тысяч жыхароў ды сваю дзяржаўную мову.

Пачаткова шатландскія бацькі — таксама як і падляшскія — гаварылі сваім дзецям: навошта табе **свая** гутарка, ты вучыся англійскай мове, тады больш заробіш. Цяпер аднак Шатландыя выпускае ўжо свае паштовыя маркі, рэферэндум вырашыў пра асобны парламент, а ў будучыні сваю абсалютна незалежную дзяржаву.

Бывае і так, як у Ірландыі, калі родную мову ведае толькі частка насельніцтва (пануе англійская), дык цяпер улада стараецца, каб усе ведалі ірландскую. Насталі такія часы, што інтэлігент павінен ведаць многа моў (паліглотыя), але на захадзе Еўропы амаль ніхто не ведае рускай. Калі я быў на універсітэце ў Базелі (Швейцарыя), то ў чытальнай зале не пабачыў я ніводнае кнігі на рускай мове. Аднак Нацыянальная бібліятэка ў Лондане стварыла аддзельны пакой для славянскіх выданняў — славікаў. „Глабальная вёска" прапаведвае ўсеагульную ўзаемасувязь. Цяпер часткі Біблії перакладзены на больш чым 2 тысячы моў, а на свеце іх прыблізна 5000. У адной толькі афрыканскай Нігерыі іх каля 250. Значыць, XXI стагоддзе будзе эрай мовазнаўства. Пакуль што да чаго, трэба так пісаць і друкаваць, каб змест тэкстаў быў настолькі надзвычайны ды нескоразнікаючы, каб выразкі з беларускіх газет — як цэнны дар — пераходзілі з пакалення ў пакаленне. Тады і японцы будуць студэнтамі замежнай беларускай мовы, таму што чэшскую ўжо вывучаюць.

**Сэрафін Корчак-Міхалеўскі**

# Пройдзеныя шляхі — пуцявіны

**Частка I**

Нарадзіўся я 5 мая 1910 года ў вёсцы Кунцаўшчына, што недалёка вёскі Лаша, радзімы акадэміка Яўхіма Карскага, у беднай сялянскай сям'і. Назва вёскі, відаць, паходзіць ад прозвішча абшарніка Яна Кунца, якому яна некалі належала. Пазней вёска Кунцаўшчына перайшла да ўладальніка маёнтка Свіслач Дольная пана Вандаліна Гусоўскага. Гэты маёнтак і яго ваколіцы часта наведвала пісьменніца Эліза Ажэшка. У сваім пісьме да знаёмага яна пісала: „Тут у Свіслачы ёсць такі палац, якога вы не знойдзеце ў іншых краінах свету, спадчына часу, людзей, даўнейшых звычаяў, стары, не заплямены ні адной кapляй тынкоўкі, ні фарбы, з высокім востраканечным дахам, на які сплываюць галінкі клёнаў і каштанаў. Навокал — мора зеляніны. Травы, як лес, растуць, а сцябло да сцябла не падобныя, дзіка растуць, бурна, рассейваючы незлічоную колькасць усялякіх адценняў, пахнуць нябачнымі кветкамі, абмотваючы ногі падарожніку рознымі павоямі. З аднаго боку пладовы сад, стары і цяністы, без з'езджаных дарог, з мноствам кустоў бэзу, дзікіх руж, акацыі, малiны і квітнеючых ужо белым цветам суніц: пасярэдзіне сада, проста ад ганку — дарога да вёскі, высаджана таполямі, нядоўгая, таму, што вечарам відаць з ганка палацу, як гараць дровы ў сялянскіх печах хат. З другога боку палаца, у самага падножжа ўзвышша, на якім стаіць палац — рака Свіслач. Месца гэта прыгожае, праўдзівей сказаць, сумнае, чым вясёлае, але мне ў ім вельмі добра адпачываецца, весела, так што ўчора вечарам, седзячы над ракой з сяброўкай, успамінала свае маладыя гады...”

І сапраўды, палац уладальнікаў маёй вёскі Кунцаўшчыны паноў Пуслоўскіх, быў цудоўны, крыты чырвонай дахоўкай, бачны з адлегласці дзесяці кіламетраў. Ён быў гонарам паноў Пуслоўскіх, а пазней — Красінскіх. І я ў маленстве, пасучы ранiцамі коней, часта назіраў за ім, дзівіўся яго прыгажосцю, асабліва чырвоным дахам. Старэйшыя людзі расказвалі аб ім легенды, як яго будавалі прыгонныя сяляне на працягу дванаццаці год. Звозілі каменне з навакольных палёў.

У маёй Кунцаўшчыне было ўсяго 18 двароў і 190 дзесяцін ворнай зямлі. Вёска размясцілася на левым беразе рэчкі Лашанкі, якая каля вёскі Сухая-Даліна ўпадала ў раку Свіслач. У гэтай вёсцы часта бывала Эліза Ажэшка, і на аснове падзей, якія адбываліся ў ёй, напісала аповесць „Дзюрдзі”.

Паабапал вёскі Кунцаўшчына, нібы вартавыя, з узнятымі ў неба крыламі, стаялі некалі два ветракі. Адзін з іх быў уласнасцю сям'і Буднікавых, другі – Цыхуноў. Стаялі яны на ўзвышшах, дзе дзьмуў заўсёды добра вецер. Ветракі былі добра бачны здалёк, служылі своеасаблівымі арыенцірамі падарожнікам. Адносіліся да найбольш старажытных ветракоў, да т.зв. казловых. Асновай казловага ветрака з'яўляўся вертыкальны слуп-вось, трывала замацаваны ў крыжавіне (казлах). Вятрак свабодна паварочваўся вакол слупа-восі ў залежнасці ад напрамку ветру пры дапамозе дышля.

У якім годзе Кунцаўшчына ўзнікла і адкуль прыйшлі яе першыя пасяленцы, ніхто не ведае. У вёсцы найбольш было Цыхуноў, затым — Саляеў. Былі і такія прозвішчы, як Краўцэвіч, Баламут, Кароль, Пых, Ахрамовіч. Старажылы казалі, што Салеі паходзяць з палонных татараў, якія аднекуль сюды прыйшлі і пасяліліся. Нават вонкавы выгляд асобных нагадваў татараў, у тым ліку, і нашага суседа Антася Салея (шырокі твар, нос, касыя вочы, асадзістая фігура). Выдатна ён ездзіў вярхом на кані, служыў у войску ў конніцы. Наогул, пры палякаx амаль усе Салеі і Цыхуны адбывалі вайсковую службу ў конных фармацыях, у уланах, шваляжэрах, коннай артылерыі. Назва вёскі Кунцаўшчына нагадвае назву татарскіх пасяленняў — Абярдоўшчына, Качаноўшчына і інш.

У вёсцы Кунцаўшчына было і такое прозвішча, як Шкарда, прымака, якое нагадвала былых яцьвягаў. Вядома, што яцьвягі ў XIV стагоддзі канчаткова былі разбіты і германізаваны. Асобныя з іх знайшлі прыстанішча ў Русі Літоўскай. Сюды, напрыклад, прыйшоў з атрадам апошні яцьвяскі князь Скурда і пасяліўся недалёка Гародні. Можа быць, што гэта далёкі продак тых яцьвягаў. Наогул, усе жыхары вёскі Кунцаўшчыны лічылі сябе беларусамі. Мова чыста беларуская. Лінгвісты называлі іх „сакунамі з-пад Гародні”, таму што ў дзеясловах замест канчаткаў на -ся, вымаўлялі -са: „наеўса, напіўса, набраўса...”

Сваю радаслоўную ведаю да трэцяга калена. Напрыклад, прапрадзедам маім быў Мацей Цыхун. Прадзедам — Тамаш, Тумаш, дзедам — Гаўрыла. У вёсцы нас называлі па прадзеду — Мацейчыкамі, а пасля па бацьку — Петрусявымі. Мяне называлі — Панас Петрусяў або Мацейчыкаў. Па прычыне таго, што ў вёсцы Кунцаўшчыне ў асноўным былі прозвішчы Салей і Цыхун, кожнай сям'і, каб адрозніць адных ад другіх, давалі розныя мянушкі, напрыклад: Цыхун Міхалка, Буднікаў Міхалка. Чаму Буднікаў? Таму, што прадзед гэтай сям'і некалі працаваў на лясных промыслах — будах, спальваў пэўныя пароды драўніны, каб атрымаць попел, з якога выварвалі паташ, неабходны для вытворчасці шкла, гнаў смалу, дзёгаць, выпальваў драўляны вугаль. Цыхун Сямён, Ксёндзаў Сямён. Таму, што прадзед гэтай сям'і меў уніяцкі малітоўнік (раней, відаць, жыхары маёй вёскі былі уніятамі), добра чытаў па-польску малітвы па нябожчыках, па гэтаму сяляне і празвалі яго ксяндзом, а яго членаў сям'і — Ксёндзавымі. Ёзік Цыхун — Муляраў Ёзік, таму што прадзед гэтай сям'і ў даўнія часы быў мулярам, будаваў з камення сялянам хлявы, адрыны і іншыя будынкі. Цыхун Пятрук — Задарожны Пятрук, таму што хата гэтай сям'і стаяла за дарогай.

Сяляне ў той час у Кунцаўшчыне жылі вялікімі сем'ямі. Кіраваў гаспадаркай у асноўным старэйшы з роду; аўтарытэт яго быў непарушны. На выпадак смерці ён перадаваў усю гаспадарку старэйшаму сыну. Усё гэта рабілася вусна, без ніякіх пісьмовых завяшчанняў. Іван Карскі (дзядзька Я. Карскага, фалькларыст і этнограф), апісаў, як яму давялося быць сведкай такога завяшчання ў маёй вёсцы Кунцаўшчыне, у селяніна Сцяпана Краўцэвіча. Перад смерцю, — пісаў І. Карскі, — ён прызваў чатырох сваіх сыноў (пяты ў той час быў у салдатах) і сказаў ім: „Дзеткі мае раднюсенькія! Вы бачыце, што я зусім цяпер хворы і, здаецца, што ўжо не выйду з гэтай хваробы, то ты, Ясю, застанешся гаспадаром, а вы, дзеткі слухайце яго як старшага брата, бо ён варт каб яго слухаць, бо ён не распуснік, ужо жанаты... да не забывайце, дзеткі, і брата свайго Казімера, што ў маскалях”. Пасля ён звярнуўся да сваёй сынавой (нявесткі): „І ты, Багуська, ні крыўдзь нікога, але ўсе шануйце адно другога, то вас людзі будуць і Бог будзе любіці...”

**Апанас Цыхун**

**Апанас ЦЫХУН нарадзіўся 5.05.1910 года ў в. Кунцаўшчына (цяпер Індурскі сельсавет Гродзенскага раёна). Настаўнік, у 1949-1968 гадах інспектар Гродзенскага аддзела народнай асветы, „Заслужаны настаўнік БССР” (1967). Адначасова з інструктарскай работай займаўся краязнаўствам, вывучэннем народнай творчасці і літаратуры. 20 гадоў узначальваў Літаратурнае аб'яднанне пры гродзенскай раённай газеце „Сельская новь”. Цяпер на пенсіі.**

**Аўтар слоўніка „Скарбы народнай мовы. З лексічнай скарбніцы насельнікаў Гродзенскага раёна” і біяграфічнага нарысу „Акадэмік з вёскі Лаша. Я. Ф. Карскі”.**

**З гэтага нумара пачынаем публікацыю адрэзкаў працы А. Цыхуна „Пройдзеныя шляхі — пуцявіны. (Запіскі, успаміны, аўтабіяграфія)”. Гэтыя фрагменты прысвечаны гісторыі роду Цыхуноў і іх роднай мясціне, жыццю заходнебеларускай вёскі ў міжваенны і ваенны перыяды ды першыя гады пасля II сусветнай вайны, у тым ліку вучобе аўтара ў польскай школе, яго службе ў польскім войску (абарона Варшавы) і савецкай арміі (абарона Беластока).**



**Апанас Цыхун расказвае ўсё добрасумленна і без упрыгожвання. У напісаным ім адчуваецца рука спрактыкаванага краязнаўцы і літаратара.**

***Алег Латышонак***

# „Наша ніва” і ўсходняя Беласточчына

**Частка XVI**

Цікавыя праявы беларускага гаспадарчага і культурнага жыцця Усходняй Беласточчыны знаходзім у 17 нумары „Нашай нівы” за 1908 год. Інфармацыі аб Беласточчыне адносяцца да такіх беларускіх вёсак, як Кленікі, Шчыты, Падаляны і Стачок.

Ужо вядомы нам Міхалка-Запалка цікава апісаў звычаёвы закон, які абавязваў у вёсцы Кленікі. Паводле гэтага закону ў выпадку смерці бацькі яго сыны атрымлівалі па кавалку бацькоўскай зямлі не па прынцыпе хто мацнейшы, той выбірае найлепшую зямлю, а толькі паводле прынцыпу, які зводзіцца да таго, што найстарэйшы сын атрымлівае ўсходні кусок зямлі, а малодшыя сыны тыя кускі, якія распалажаны на захад ад усходняга ўчастка. Аўтар апісвае здарэнне, падчас якога быў парушаны гэты лакальны закон, аднак вышэйшая судовая інстанцыя падтрымала традыцыйны кленіцкі звычай, трактуючы яго як юрыдычны закон.

Апрача гэтай весткі ў карэспандэнцыі знаходзім інфармацыю аб тым, што некаторыя кленіцкія мужыкі пастанавілі перасяліцца ў Сібір. Аднак у Сібіры не знайшлі месцаў, якія ім адпавядалі б і таму вярнуліся з цвёрдым намерам у Сібір не перасяляцца.

Драма гэтых сямей заключаецца ў тым, што перад выездам у сібірскую „разведку” прадалі ўсю сваю маёмасць. Выручаныя ад продажу гаспадарак грошы былі імі патрачаны на праезд у Сібір і назад. Такім чынам неразважныя сяляне засталіся і без грошай, і без гаспадарак.

З кароткай інфармацыі, падпісанай літарай „Г” даведваемся аб праяве прагрэсу ў спосабах гаспадарання ў вёсцы Шчыты:

„У вёсцы Шчытах Бельскага павета Гродзенскай губерні 20 чалавек пастанавілі адкрыць гаспадарчую суполку і зрабілі прыгавор аб тым, каб рассяліцца на хутары. Усе гэтыя справы вядуцца пры нашай бібліятэцы; студэнт П. Г. і другія людзі стараюцца памагчы мужыкам. Бяда толькі, што ў нас па другіх мястэчках і вёсках мала людзей з навукаю і няма бібліятэк”.

Арыгінальныя весткі з раёна Белавежскай пушчы сустракаем у карэспандэнцыі Халімона з-пад Пушчы. Аўтар напісаў наступнае:

„З Белавежскай пушчы, Гродзенскай губерні. Мужыкі нашых вёсак Падалян, Стачка і другіх, што раскінуты сярод лесу, дасталі нядаўна прыказ, каб на сенажаці і ў лесе не стукалі кляпаючы косы; гэта за тым, каб не пужалі зуброў і іншых звяроў. Выходзіць, што трэба кляпаць косы ў хаце, бо-ж каб выйсці з лесу прыйшлося б ісці вёрстаў 20—40.

Сенажаці мужыкі тутака бяруць ад „удзелаў” і за гэта аддаюць палову сена. Пашы сваёй таксама няма, дык ізноў за яе плацяць „удзелам”. Яшчэ нядаўна за пашу ў пушчы аддавалі з кожнай галавы скаціны па 1 руб. 40 капеек, а па 70 кап. за кожнае цялё і рабочага вала. Усяго разам у 1900 годзе заплацілі мужыкі за пашу 6942 руб. 80 кап., у 1901 годзе — 6149 руб., у 1902 г. — 5909 руб. 20 кап. У апошнія гады пасля забастовак плату паменшылі на 20—30 кап. з галавы”.

Думаю, што ўсе гэтыя весткі будуць цікавыя не толькі сённяшнім жыхарам Кленік, Шчытоў, Падалян і Стачка, але і ўсім тым чытачам, якія цікавяцца мінулым нашага рэгіёна.

**Алесь Барскі**

# Wokół Pomnika

Адгалоскі

Idea zbudowania Pomnika Prawosławnym Mieszkańcom Białostocczyzny zabitym, zamordowanym, zamęczonym i zaginionym w latach 1939-1956 jest jak najbardziej słuszna i uzasadniona. Inicjatorowi powołania Stowarzyszenia Budowy Pomnika i jego współtowarzyszom należy się najwyższe uznanie i gratulacje. Taki Pomnik powinien być już dawno wystawiony. Nic dziwnego, że w białostockiej prasie, również i w „Niwie", pojawili się oponenci tego Pomnika i podnoszą wrzawę po to, aby wywołać wśród członków Stowarzyszenia niechęć i doprowadzić do rezygnacji z tego zamiaru, bowiem wiedzą, że wystawienie tego pomnika jest zgodne z prawem. Natomiast niemoralnym jest bieganie pod konsulat Białorusi palić portret prezydenta w euforii antyprezydenckiej wrzawy. O wyborze A. Łukaszenki na prezydenta nie decydował elektorat A. Smólki, lecz referendum narodu białoruskiego i na pewno z jego nauk naród białoruski nie skorzysta.

Upamiętnienie lat 1939-1956 jest jak najbardziej trafne, ponieważ był on kulminacją tego wszystkiego, co doprowadziło do tragedii tych lat. Tych niedowiarków, którzy mają wątpliwości lub nie wiedzą, że ktoś ginął za przynależność religijną odsyłam do książki Walerego Pakuły „Księga hańby" (Białystok 1995). Nawet po roku 1956, chociaż nie strzelano do osób fizycznych, to strzelano ogniem do ich kultury materialnej i duchowej paląc cerkwie wraz z sanktuarium prawosławnym na Grabarce. To, że Stowarzyszenie o pomoc w budowie pomnika zwróciło się do Mińska, a nie do kogo innego, jest także uzasadnione i zgodne z prawem. Odpowiem na to „testamentem" wielkiego wieszcza Juliusza Słowackiego: „Polsko! — twoja zguba w Rzymie". Tam nam nie po drodze. I tu nie widzę żadnych sprzeczności z polską racją stanu. Natomiast tragedia narodu białoruskiego i prawosławnych ze strony totalitaryzmów to nie tylko Rajsk, Popówka, ale Chatyń, Kuropaty, deportacje, Katyń itp. To prawda, że w pewnym sensie pamięć poległych upamiętniano na niektórych pomnikach, ale to tylko na niby, ponieważ w nich nie ma podkreślenia martyrologii Białorusinów i prawosławnych w Polsce. Także wybór miejsca pod pomnik jest jak najbardziej trafny i słuszny, chociaż nie obyło się bez bzdurnych, podchwytliwych insynuacji, wprost bezczelności oponentów, że cerkiew będzie kojarzyć się z prześladowaniami i zaborem. A od kiedy to Cerkiew prześladowała kogokolwiek i uczestniczyła w rozbiorach? Znany jest okres krucjat, kontrreformacji, prześladowań, inkwizycji i t.p., ale tego nie robiła Cerkiew prawosławna. Rozbiory Polski odbyły się nie tyle z winy państw ościennych, lecz przede wszystkim, z winy szlacheckiej i pańskiej Polski.

Prawosławie w Polsce sięga IX-X wieku i zwane wtedy było obrządkiem wschodniosłowiańskim. To sprawa misjonarzy Cyryla i Metodego. Ku czci ich misji obowiązkowo powinno się zbudować pomnik Cyryla i Metodego w Krakowie. Kraków był III Rzymem. Prawosławie w Polsce nie ma nic wspólnego z caratem. Wielkie Księstwo Litewskie było prawosławne. Lanie jadu nienawiści na wschód, zwłaszcza na Rosję, to samobójstwo. Nawet jednym z warunków przyjęcia Polski do NATO jest ułożenie dobrych stosunków Polski z Rosją. Nienawiść jest ostatecznym upadkiem. Państwo z wmontowanym systemem szowinizmu-totalitaryzmu (o jednej ideologii lub jej nadrzędności), rewindykacji i rewanżyzmu nie ma szans. Takie państwo musi zginąć. Takim państwem w okresie międzywojennym była sanacyjna Polska. Ówczesny minister J. Beck w Lidze Narodów odmówił złożenia podpisu pod konwencją Prawa Międzynarodowego w zakresie ochrony praw mniejszości narodowościowych i wyznaniowych. Gdyby taki podpis był, nie doszłoby do fatalnego, bzdurnego wydania dekretu Prezydenta RP w 1938 r. Czas najwyższy zrozumieć i uświadomić sobie, że lanie żółci nienawiści to zguba. I temu, by nie dzielić społeczności na swoich i cudzych, będzie służył niniejszy Pomnik. Idea zbudowania tego Pomnika jest nie tylko jak najbardziej wartościowa, lecz konieczna. Będzie on służył tylko na chwałę Rzeczypospolitej w imię pojednania i zgody między narodami i społecznościami w myśl motta noblisty Czesława Miłosza do słów modlitwy, która jest na bramie wejściowej do klasztoru w Ujkowicach: „Gdy brat Polak ujrzy swego brata w Rusinie".

**Wiktor Owsiejczuk, Białystok**

# Збіраюць многія

**Пра збіранне зёлак расказвае Галена ТАПАЛЯНСКАЯ з Трасцянкі, якая скупляе іх для гайнаўскай фірмы „Runo".**

Зімою, ад снежня да сакавіка, найлепш аплачвалася збіраць вярхі сасны, якія не выраслі больш чым на 2 см. Нельга зрываць тых, якія растуць уверх, а толькі тыя, якія адыходзяць навокал на бакі, бо яны пасля і так засыхаюць, або голле ад іх трэба цярабіць. За такія сухія вяршкі плацілі гэтай зімы па шэсць злотаў за кілаграм; нельга іх толькі сушыць у гарачым, бо зліпаюцца.

Нядрэнна плацілі і за ягады ядлоўцу, па пяць злотаў за кілаграм сушаных, але не сухіх — такіх як разынкі. А цяпер прапануюць яшчэ больш: па дзесяць злотаў, а гэта таму, што было іх у мінулым годзе мала.

Ранняю вясной збіраецца сушаная амяла, але было яе мала з увагі на тое, што збіраюць у нас людзі старэйшыя, якім ужо не пад сілу ўзлазіць за ёю на дрэвы.

Карэнне дзьмухаўца збіраецца тады, калі ён не цвіце, бо падчас квітнення яно робіцца лёгкім. Скупляем таксама карэнне аеру і драсёну змяінага (rdestu wężownika).

Выгадна збіраць таксама ісландскі мох (płucnica islandzka), які расце на палянках пры дарогах у сасновых лясах; яго можна сушыць на панадворку на сонцы.

Кара вярбы танная — па залатоўцы, але не можа яна быць таўсцейшая за два сантыметры. За кару крушыны ў маі мінулага года наша фірма плаціла па 1,80 зл. за кілаграм. Кару ясеня можна здзіраць толькі са спушчанага ствала; у мінулым годзе мы плацілі за яе па два злоты.

Скупляем сушаныя ягады рабіны, струкі (лупіны) фасолі, ліпавы цвет, парасткі багуна балотнага (багна), стрэлкі звычайнай (tasznika pospolitego), гусяляпкі (буславай лапы, przywrotnika), дуброўкі гусінай (srebrnika, pięciornika gęsiego), цяцюшніка (świetlika) і сумніка звычайнага (nawłoci pospolitej). А пра тыя расліны, якія ў нас сустракаюцца вельмі рэдка, я збіральнікам і не згадваю, каб іх зусім не звялі.

Многія нашы збіральнікі сабіраюць святаяннік (dziurawiec), але многія спецыялізуюцца. Вось адзін жыхар Трасцянкі зрабіў сабе спецыяльную лапату для капання дзьмухаўца. А адзін жыхар Анцутаў збірае толькі бярозавае лісце. Спытала я, колькі ён часу прысвячае на яго збіранне.

— Я так прыхваткамі, — адказаў ён. — Выганяю раніцаю кароў,назбіраю мяшок, і на ток. Вечарам забіраю кароў, назбіраю мяшок, і на ток. Толькі калі жніва, тады не маю часу збіраць.

Збіраюць усе, хто толькі можа. Вось, для прыкладу, спадар Мінько, бацька Любы Гаўрылюк, якому ўжо пад дзевяноста гадоў, таксама збірае.

— А што! — кажа ён. — Буду мо смерці чакаць?!

**Запісаў Аляксандр Вярбіцкі**

# Вешчы дзядок

У 1963 годзе давялося мне пайсці на работу ў Беласток. Працаваў я тады ў транспартным прадпрыемстве, якое развозіла тавары па крамах Беластока і ўсяго ваяводства. Падчас гэтай працы сустракаўся я з рознымі людзьмі, абменьваўся з імі думкамі на розныя, у тым ліку і палітычныя тэмы. Найлепш запамяталася мне гутарка з „дзядком" (так я называў яго пры сустрэчах) з-пад крамы на вуліцы Вейскай у Беластоку. Не раз казаў ён мне вось такія словы:

— Сынок, я не дажыву гэтага часу, калі прападзе камуна, але ты яшчэ малады і напэўна дачакаешся.

Я тады ў гэта не верыў і пасмейваўся з яго. Але дзядок пераконваў мяне, што камуна прападзе і аддасць уладу без аднаго выстралу. „Абудзішся, — казаў ён, — і будзе іншая ўлада, якая будзе лічыць сябе дэмакратычнай". Гаварыў ён яшчэ пра здрадніцтва і прадажніцтва новых уладароў, пра пяты раздзел Польшчы і яе вечнае знікненне з карты. Вешчыў ён, што рабочым і сялянам жыць стане цяжка, што будуць забастоўкі, што пачнуць прадаваць зямлю замежным кулакам.

Словы дзядка прыпомніліся мне пасля 1989 года. Будучы аднойчы ў Беластоку зайшоў я ў краму на вуліцы Вейскай і стаў дапытвацца пра вешчуна. Аказалася, што старэча памёр, не дачакаўшыся новай улады. А я часта задумваюся над ягонымі словамі, бо многае ім сказанае да гэтай пары збылося. Баюся, каб не сталі праўдай усе ягоныя парароцтвы, бо тады зусім было б цяжка жыць, намнога цяжэй чым цяпер. Варта, каб нашы патрыёты не дапусцілі да гэтага.

**Мікалай Лук'янюк**

# Можа дырэктар адкажа...

Ад даўжэйшага часу заўважаю, што на чаромхаўскай пошце пенсіянеры ў дзень палучак займаюць чаргу ад чацвёртай (а нават і трэцяй) гадзіны раніцы. Па-рознаму тлумачыў я сабе гэты абычай. Яго сутнасць мне высветлілася 1 красавіка г.г. і не быў гэта першакрасавіцкі жарт, а чыстая, як сцюдзёная вада, праўда.

Калі мне стала вядомым, што пісьманосец не будзе насіць грошай, я падаўся на пошту за сваёй пенсіяй. Прыёмная была набіта пенсіянерамі. Некаторыя нават сядзелі ў пачакальні чыгуначнай станцыі і на лаўках побач яе. Я запытаў у знаёмай касіршы, ці атрымаю грошы.

— Або я ведаю? — пацiскаючы плячыма адказала яна.

— Мне трэба сёння ўплаціць у банк чарговую рату, — тлумачу.

— Кожнаму патрэбны грошы...

Было гэта недзе пасля дзесятай перад абедам. Другі раз я наведаў пошту (у той жа дзень) каля першай пасля абеду. У прыёмнай сустрэў я некалькі чалавек. Калі запытаў пра сваю пенсію, касірша адказала: „Няма грошай" і зараз жа пацікавілася, „А колькі вы атрымоўваеце?" Калі я назваў суму, рашуча адказала: „Не маю!"

На наступны дзень (2 красавіка), пісьманосец прынёс мне пенсію. Я прад'явіў свае прэтэнзіі.

— Мы не вінаваты, — пачаў тлумачыць ён. — Нам так з Гайнаўкі пасылаюць. Па законе больш дзесяці мільёнаў нельга для пошты выплачваць аднаразова. Таму і не ўсім хапае. Ёсць у нас браніраваная каса з трывожнай сістэмай. Маглі б пасылаць і больш сумы...

Вось і закон! Чалавеку не выплачваюць яго ўласных грошай. Распараджаюцца як сваімі.

У банк я заплаціў рату 2 красавіка з працэнтам. Хоць грошы гэты не так ужо і вялікія, аднак крыўдна чалавеку. Пошта трымаецца законаў. А якія законы гарантуюць звычайнаму грамадзяніну, што належную пенсію будуць выплачваць яму ў назначаны час, гэта значыць першага дня кожнага месяца?

Мо на гэтае пытанне адкажа спадар дырэктар Раённай паштовай управы, якая знаходзіцца ў Беластоку пры вуліцы Войска Польскага 8 „А"?

**Уладзімір Сідарук**

# Стапа паперы для „Грабіны"

25 красавіка г.г. у Рэгіянальным асяродку культуры ў Ольштыне падведзены былі выніні конкурсу мясцовай прэсы Альштынскага ваяводства. Прынялі ў ім удзел дваццаць пяць выданняў, у тым ліку і мае „Грабіна" ды „Газета меншасці". Перамог "Kurek Mazurski" са Шчытна, які ўзнагародзілі стапою паперы і 2,5 тыс. зл., на другім месцы апынулася „Gazeta Mrągowska", якая атрымала на тысячу злотых менш. Сярод вылучаных выданняў былі і абодва прадстаўленыя мною, за што арганізатары ўзнагародзілі мяне прыгожым дыпломам — за сукупнасць дзеянняў на карысць нацыянальных меншасцей на Вармії і Мазурах — і стапою паперы фармату А3, якую я пазней ледзь данёс дадому. Прыносячы падзяку арганізатарам, я расказаў пра жыццё беларусаў у Польшчы і пра нашу культурную дзейнасць.

**Андрэй Гаўрылюк**

## Парнасік

### Травень

Ходзіш ты па агародах
без прыстанку.
Слухаеш — звініць пагода
і шэпчуць цюльпаны.
Сонца сцелеш на лугі,
жоўтыя галоўкі,
войска ландышаў выводзіш
з папаратніку ў гаю.
Ноччу ходзіш па палях,
выцягаеш колас жыта,
яблыневу кветку ў садзе
закаханым дарыш,
раніцай нарцысы
разбуджаеш ветрам
і кроплі расы
выпіваеш з бэзу.

**Андрэй Гаўрылюк**

### „Земляроб"

Як жа ў Беластоку
Яму земляробам звацца,
Калі будуць людзі
З яго ўсе смяяцца?
Ён жа там дырэктар,
Добру ўладу мае,
А бацька старэнькі
Зямлю ўсю абрабляе.
А калі не будзе
Яму добрай працы,
Тады ён „куранёўку"
Сам будзе даставаці.
Пра сваю зямельку
Нідзе сам не скажа,
Бо вялікі сорам
Яму рукі звяжа.
У вёску прыедзе,
Каб наведаць бацьку,
Як свінку той зарэжа —
Каб узяць каўбаску.
Сам машынай ездзіць,
Нат шафёра мае,
Кожны год улетку
Ў цёплы край з'язджае.
Чаму КРУС такі бедны,
Праўду трэба знаці:
З гарадскіх „земляробаў"
Няма як грош сцягаці!

**Мікалай Лук'янюк**

### Кроў чырвоная ва ўсіх

Бяда ўся ў тым, што многіх абходзіць,
Хто як апранаецца і ў чым ходзіць.
Сябе чалавек не бачыць,
А чужы аўтарытэт стараецца
падважыць.
На жаль, такія людзі не звяліся,
Рабі ім дабро і маліся,
Усё роўна не дагодзіш.
А калі нечага папросіш —
Адправіць з нічым;
Такія яго дабрыня і „чын".
Агульна — жывуць у нас небагата
І не кожная хата
Прыме падарожніка належна,
З пашанаю і прылежна.
Чым больш чалавек заможны —
Ён непрыхільны і злосны.
Хаця ёсць і выключэнні:
Калі ён хрысціянін і шчыры ў маленні.
Беларусы больш шчырыя за палякаў:
Не *мяцежнікі* яны і не рвуцца
да дракі.
Кроў ва ўсіх, здаецца,
аднолькава плыве,
Але чалавек па-рознаму жыве.
Усё залежыць ад нашага
характару і сэрца:
Адно забіта эгаізмам, а ў другім
ёсць гасціннае месца.
Цяжкая гэта праблема,
Аднак цікавая і важная тэма.

**Мікалай Панфілюк**

### Без слоў

Выкупіў сягоння
дзве гадзіны між прасоння
і гадзіннік частаваў
гэту ноч званком
а жонка прабудзіўшыся
робіцца перапалохам
і называе дураком.
Куды падзецца? — падкажыце
дык не пайду сам у прагон
душа крычыць — шаптуха слоў
а слёзы цiснуцца на двор
ізноў маўчаннем трэба плаціць
ізноў развязалі мазоль халоднай ночы
і цяжкіх успамінаў
скажы: —
чаго Табе яшчэ трэба? —

**Уладзімір Саўчук**

## ВЕР — НЕ ВЕР

У майго пляменніка двое дзяцей, дзяўчынцы два з палавінай года, яна зусім нармальнае дзіця, завецца Еля.

Сніцца мне, што цешча пляменніка прыйшла з Ёляй да мяне ў госці. Быў вечар, на канапе разложаная ружовая, але вельмі злінелая коўдра і Еля бегае па той коўдры.

Адхілілася ў Ёлі на плячах кашулька, і што я бачу! У дзіцяці на спінцы, пасярэдзіне, як бы на хрыбце, тырчыць рука, абернутая далонню ўверх. Гэтая рука размерам чайнай лыжачкі, пальчыкамі даходзіць да шыйкі Ёлі. Яна прытуленая да спіны, але часам адхіляецца і далонню, вядома, маленькай, хляпае сябе па плечках, потым зноў прытуляецца да спіны.

Бабка Ёлі паправіла ёй кашульку, і той ручкі ўжо не было відаць. Адкажы, Астроне, што абазначае гэты сон!

Яшчэ дадам, што сапраўды і ў сне ў Ёлі былі дзве рукі нармальныя. Толькі ў сне на спінцы была яшчэ тая трэцяя ручка.

**Ніна**

Ніна! Калі прысніцца дзіцятка, наогул можна спадзявацца поспеху ў справах, задавальнення. Адна пры гэтым умова: калі дзіця ў сне здаровенькае і прыгожае.

Зусім інакш выглядае сон, калі прысніцца дзіця кволае, хваравітае ці слабое. Тады дабра не спадзявайся! А што ўжо гаварыць, калі прысніцца дзіця не цалкам нармальнае, можна сказаць, калека!

Тая трэцяя ручка, якая была прыклеена да хрыбта дзяўчынкі, сведчыць аб тым, што яна была калека. Хоць гэтая ручка і дзейнічала, адхілялася ад спінкі Ёлі і маленькай далонню „хляпала" сябе па плечках, то сам факт, што яна як бы „вырасла" на неадпаведным месцы, ды яшчэ ў якасці трэцяй, бо дзве ручкі ў дзяўчынкі ў сне (як і ў жыцці) былі зусім нармальныя, гаворыць аб яе ненармальнасці ў тваім сне.

Магчыма, нічога кепскага з ёй і не здарыцца, але цябе, Ніна, чакае непрыемная справа. Можа, прыхварэеш, бо дзіця тое гуляла на злінелай коўдры.

**Астрон**

## Памяло, пішы як было!

Я — адзіны мужчына ў беларускім роднамоўным і іншым асяроддзі Беласточчыны, Еўропы і абедзвюх Амерык, на якім не зрабілі ўражання габарыты Ады Чачугі. Але яе пісьменніцкая і журналісцкая праца — *оўшам*. Бо не лжэ Ада Чачуга ў друку. Часам літаратурна тое-сёе аздобіць, каб тэкст быў ядомы для Чытача. А я вось люблю, напрыклад, чытаць пра людзей, якія дзейнічаюць, штосьці карыснае для сябе і іншых робяць. Хоць бы — займаюцца аматарска творчасцю ці ад-творчасцю. І не прапускаю апісання Адзіных вандровак у вёску па жывы фальклор. Хай смяюцца некаторыя, што гэта ніякі не фальклор у наш час, але, відна, гэтым людзям трэба гэта для душы, і для нас трэба, калі слухаем нашых песень. І я вельмі рады, што ёсць пра што пісаць, і ў вёсцы, і ў горадзе. Я і сам стараюся хадзіць на ўсе беларускія імпрэзы, ад музычных па навуковыя. І трэба цешыцца, што і мая сімпатыя Ада, службова ці не, таксама валачэ свае немаладыя косці на падзеі вартыя ўвагі, і апісвае, што бачыла і чула. Мае права думаць пасвойму, яна ж фірмуе свае опусы прозвішчам.

І я там, быў, на той адной вечарыне, якую зрабілі шчырыя, таленавітыя, культурныя студэнты педагогікі. Што ж, глупства здараецца нават у найлепшай кампаніі. Але з глупства можа хутка зрабіцца хамства, Замест прасіць на каленях дараванне за ганебнае патрактаванне зборнічка твораў вядомага ды выдатнага пажылога паэта, вось далалі маладыя людзі ў рэдакцыю ліст, у якім ганіцца Адзін падыход (быццам кепскі!) да шчырых твораў і ейныя іншыя комплексы ці хібы (непунктуальнасць ці... лакомства)! Падпісаліся ўсе студэнты, якія рыхтавалі вечарыну і выступалі, а пасля са спіска выкраслілі прозвішча і подпіс віноўніка канфузу. Бачыў я той ліст, ведаю хто гэта быў і ёсць той чалавек, апроч мяне могуць гэта пацвердзіць іншыя людзі, між іншым вядомы наш паэт, які не маніць ні ў справе, ні ў песні.

Мяне, вядома, гэта вельмі ўгнявіла і засмуціла. А такія пачуцці вельмі некарысна ўплываюць на маё старое сэрца. І Ады Чачугі таксама.

Я, як чытач і беларус, вельмі хвалююся, калі сустракаю сваркі на старонках нашай роднае газеты і іншых. Вядома, не трэба і прыўкрашваць рэчаіснасці, бо яшчэ больш пагана ад няпраўды. Мы ж не дзеці!

Ну, хай я толькі ўбачу кагосьці з тых асоб — якія настаўляюць шчырую моладзь і цкуюць яе, то!... Я ведаю, хто гэта робіць. Брыдка, мае вы панства, брыдка! За якую ж прыгажосць бярэцеся, пра якія каштоўнасці разважаеце іншым часам!

**Вандал Арлянскі**

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 4. Яўхім, беларускі мовазнавец (1861—1931), 7. пустыня ў Чылі, 8. індзейскае племя ў Балівіі і Чылі, 9. аўтамабіль, які выпускаўся ў ГДР, 10. не гамеапат, 14. ядавітая яшчарка ў ЗША і Мексіцы, 18. порт у Бельгіі, 19. опера Жоржа Бізэ, 20. прыправа ў ежу, 21. няўважлівы чалавек.

**Вертыкальна:** 1. адна шахматная гульня, 2. рыба падатрада сомавых, якая жыве ў багністых вадаёмах Паўднёвай Амерыкі, 3. гара ў Гімалаях, 8463 м., 4. шыроканосая паўднёваамерыканская малпа, 5. кубінскі танец, 6. чарцёж зямной паверхні, 11. сок гевеі, 12. частка мужчынскага касцюма, 13. комплекс трэніровачных практыкаванняў, 15. калючая зброя вос, 16. пад небам, 17. японскі будысцкі святар. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 13 нумара**

**Гарызантальна:** бляск, Зайцынгер, камея, Лёсік, вар, джунглі, Айдараў, Кей, хурал, Плева, Дашчынскі, Акіта.

**Вертыкальна:** Вязынка, бойня, кагал, земснарад, Руставелі, кажух, каала, Вік, рай, Еўрыпід, ляшка, паста.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

## Адзін дзень у Белавежскай пушчы

У Асяродку прыродазнаўчай адукацыі ў Белавежы падсумавалі літаратурна-прыродазнаўчы конкурс пад загалоўкам „Адзін дзень у Белавежскай пушчы". Удзельнічалі ў ім вучні пачатковых школ Белавежы, Гайнаўкі і Нараўкі.

Першае раўнапраўнае месца занялі Якуб Чарнэцкі з Пачатковай школы н-р 1 у Гайнаўцы і Барбара Цырук з гайнаўскай „тройкі", другое месца — Адэля Койла з ПШ у Нараўцы і трэцяе — Ігар Антыпюк з ПШ н-р 6 у Гайнаўцы.

Вылучэнні атрымалі: Якуб Швед, Пётр Руткоўскі і Эва Трашчотка з ПШ н-р 1 у Гайнаўцы, Кацярына Петручук з ПШ н-р 2, Юстына Гаўрылюк з ПШ н-р 3, Бэата Карнілюк з ПШ н-р 5 ды Юстына Герасімюк, Пётр Падсядлік і Магдаліна Бартнічук з ПШ н-р 6 у Гайнаўцы, а таксама Павел Герасімюк, Эва Цыганік і Давід Вярбіцкі з ПШ у Нараўцы. **(гай)**


**Ніва**

**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435 022.

Druk: „ORTHDRUK", ul. Składowa 9, Białystok.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1998 r. upływa 5 czerwca 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał 1998 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

Фрашкі пра нашых

## Помнікі

За кроў ты помнік не паставіш.
Гранітам душаў ты не збавіш.
Ні вершы, песні ці раманы
Граху не змыюць, слёз, падману.

Мала гісторыі слупоў ужо ўпала?
Хваля ў нябыт іх пазмывала.
Жывое памяці аснова —
Жывы праўнук, жывое слова.

## Адкуль бяруцца беларусікі?

Найбольш пра птушак
пачуеце ад беларуса,
Які ўсё верыць,
хоць
гадоў яму за сорак,
Што бусел —
адзіны
шанц для Беларусі,
Каб дзетак
нарадзілася тут мора,

А ўсе яны
шчабечуць пра айчыну
І родная мовай
цешаць яго вуха...
Ой, каб той бусел
дзетку ў комін укінуў,
Было б бы добра...
Ну, браток, паслухай...

**Вандал Арлянскі**

# Ніўка

## Як паводзіць сябе застаўшы жонку in flagranti з незнаёмым асобенем мужчынскага полу

Парады супраць асіміляцыі (4)

Калі не можаце дазваніцца дамоў, каб даведацца каторая якраз гадзіна, безумоўна трэба вам патурбавацца туды асабіста.

У дарозе панаракайце крыху на сувязныя службы, старайцеся аднак рабіць гэта прыстойна і культурна, найлепей у думках. Мабыць, чалавек, які сядзіць побач, нейкім чынам звязаны з гэтымі службамі і зусім ненаўмысна сапсуеце яму прыемны настрой. Знерваваўшыся, выйдзе на першы лепшы паўстанак, кінецца ў роспачы пад выпадковую машыну і вадзіцель будзе прымушаны незнаёмым спадарам расказваць дэталёва пра ўчарашнія імяніны — што пілі, а нават — чым закусвалі.

Бачыце вось самі — наракаць трэба разумна.

Зайшоўшы ў кватэру, зараз жа пацікаўцеся, што здарылася з вашай жонкай і чаму вы не маглі да яе дазваніцца.

Калі ў вашай спальні, з-пад вашай коўдры тырчаць дзе пары ног — старайцеся не думаць стандартна. Стандартнае мысленне не спрыяе развіццю міжчалавечых сувязяў. Перш за ўсё — праверце, ці гэтая звышнарматыўная пара ног не з'яўляецца вашай уласнасцю. Дайшоўшы да вываду, што вашы клынды ўсё ж такі на сваім натуральным месцы — абсалютна не рабіце скандалу. Вярніцеся назад і яшчэ раз старанліва праверце нумар кватэры, гляньце таксама, ці ваша прозвішча віднеецца ў спіску жыхароў. Блёкі ўсе ж аднолькавыя і, магчыма, вы з-за сваёй неахайнасці сталі ахвярай сучаснай архітэктуры. За гэты час незнаёмы чалавек апранецца, бо — самі ж ведаеце — у цывілізаваным свеце непрынята, каб госць франціў галізной перад гаспадаром. У думках старайцеся адгадаць — хто ж вас сёння наведаў: сантэхнік ці электрык? Паспешліва выпісаны рахунак прачытайце вельмі дакладна. Памятайце, што лішняя даверлівасць дорага каштуе і пакуль заплаціць за паслугу, праверце, ці ўсё адрамантавана як трэба.

**Міхась Андрасюк**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Бландзінка хоча купіць макарону.
— Можа быць спагеці? — пытае прадаўшчыца.
— Ой, не! Не маю такога доўгага гаршка.

* * *

— Што робіць бландзінка, калі даведаецца, што зацяжарыла другі раз?
— Пытае мужа, ці трэба другі раз браць шлюб.

* * *

— Што думае бландзінка, калі зацяжарыць?
„Можа гэта не маё?"

* * *

— Чаму бландзінка ўкладае палец між цвік і малаток, калі ўбівае цвік у сцяну?
— Бо стук малатка выклікае ў яе боль галавы.

* * *

— Як заняць бландзінцы цэлы дзень?
— Завесці яе ў круглы пакой і папрасіць каб села ў куточку.

* * *

— Што ўмее бландзінка?
— Умее зрабіць з мужчыны сапраўднага барана, і яшчэ ўнушыць яму, што ён з'яўляецца ільвом.

## Віягра

У апошнім часе светам, а асабліва дзяржавамі цэнтра Еўропы, ускалыхнула вялікая радасць: амерыканскія вучоныя-фармаколагі выпрацавалі новы шчасцятворны лек *viagra*, а іхны Кангрэс выказаўся за расшырэннем НАТО. Паколькі працэсы, якія прывялі да абедзвюх падзей, праходзілі сінхронна і іх завяршэнне адбылося адначасна, не толькі другі факт, але і першы трэба лічыць падзеямі палітычнага характару. Я, праўда, палітыкаю не займаюся, а калі ўжо, дык з агідаю — і з такою вось агідаю хачу заняць увагу саноўнейшага чытача тутэйшымі паслядоўнасцямі гэтых палітычных навінак.

Асаблівай увагі заслугоўвае фармакалагічнае вынаходства, бо, яно, пасля эйфарыі ад Вялікай Кастрычніцкай Рэвалюцыі, стварае найбольш практычныя шансы на агульнае шчасце. Варта прынагодна заўважыць, што пошукамі новага шчасця займаліся тыя, якія не прабавалі таго кастрычніцкага; бо б калі ім такое пашчасцілася, усё ўжо было б ім *харашо*.

Крыху пра новы лек: даводзіць ён да павелічэння і ацвярдзення адмысловых мужчынскіх мышцаў у выніку нервовых імпульсаў выкліканых узбуджэннем прывабнасцю; без прывабнасці лек не дзейнічае! Адна таблетка трымае пацыента ў гатоўнасці чатыры гадзіны; пасля чатырох гадзін — пшык. Або наступная таблетка. У ампуле, мабыць, шэсць таблетак: адна ампула можа быць для маладых і багатых на цэлыя кругласутачныя суткі або для старых і бедных на цэлы тыдзень — па адной таблетцы на першыя шэсць дзён, а на сёмы дзень — адпачынак...

Як было ўжо раней згадана, новы лек мае палітычную афарбоўку, бо ці ж не кідаецца ў вочы, што ў яго клінічнай праверцы мог удзельнічаць сам тамашні першы палітык: ягоныя славутыя паводзіны *паводзіны* нельга вось так сабе растлумачыць без дай прычыны. І, як палітычны аб'ект, лек можа падлягаць палітычнай рэгламентацыі. На некаторыя, недружалюбныя Амерыцы краіны, такія як Ірак ці Сербія, можа быць накладзена поўнае эмбарга. Беларусь таксама невысока каціруецца ў амерыканцаў і магчыма, што атрымае абмежаваныя надзелы медыкаментаў, якіх можа хапіць толькі вялым безвертыкальным вертыкалам адно на кастрычніцкае свята.

Польшча, як новаўстаноўлены Кангрэсам саюзнік, не павінна мець асаблівых клопатаў: шчасцятворны сродак павінен скора апынуцца ў распараджэнні ўсіх міністэрстваў і ведамстваў. А ён вельмі цяпер патрэбны, бо павінен зняць з павесткі пасольскага дня новы адміністрацыйны падзел, які выклікае столькі нездаровых эмоцыяў, па той простай прычыне, што старыя малыя ваяводствы пасля новай тэрапіі ўзбуйняцца насельніцтвам да велічыні сёння планаваных новых — адпаведных еўрапейскім стандартам; зліццё ваяводстваў давяло б да стандартаў кітайскіх, якія, пакуль, да пары да часу, неабавязковыя.

Нас аднак, тутэйшых, павінна цікавіць аснашчэнне новым сродкам нацыянальных меншасцей. А такімі надзеламі, як вядома, займаецца міністэрства нашых культуры і мастацтва. Трэба спадзявацца, што захады нашага старанлівага Старшыні забяспечаць усе тутэйшыя фальклорныя фэсты неабходнымі матэрыяламі. На фэст нафэст!

Выпадае толькі намякаць асцярожны падыход адно да Басовішча, бо новы лек у злучэнні са спонсарным там доілідскім півам можа выклікаць, замест намечанага амерыканцамі гаючага дзеяння, непрадбачаныя імі кіслыя дажджы, вельмі шкодныя тутэйшым зялёным лёгкім нашай краіны.

**Адам Маньяк**

## Сардэчныя ТАЙНЫ

Ой, Сэрцайка, Сэрцайка! Звяртаюся да цябе з пытаннем, ці можна верыць хлопцам, але фактычна мне і так ужо ўсё ясна.

Сталася ўсё неспадзявана для мяне. Запрапанавалі мне выезд на экскурсію за недалёкую граніцу. Знаёмых там шмат, і я ані трохі не сумнявалася, што варта ехаць. Схаджу ў тэатр, пабуду ў кампаніі. Цікава!

Ці ж я меркавала, што вярнуся з экскурсіі закаханая?! Закаханая ў старую сімпатыю, з якою толькі цяпер спалучыў мяне лёс! У адзін момант ён стаўся для мяне ўсім — маці, бацькам і мужам. Настолькі моцнае было маё пачуццё. Выязджаючы, я дамовілася з ім, што неўзабаве ізноў прыеду, а тады дамовімся, што і як. Я была настолькі закаханая, што не ўяўляла сабе нават, быццам ён не кахае мяне таксама.

Калі мы развіталіся, абяцаў мне званіць, пісаць лісты, сумаваць па мне, але мінула два месяцы ад майго прыезду дахаты, а ён чамусьці не адзываўся. Усё было ў мяне па-старому: цішыня і застой. Змянілася толькі адно: лекар сцвердзіў, што я цяжарная.

Калі б я сказала, што гэта быў для мяне ўдар, дык зманіла б. Мне ж ужо дваццаць восем гадоў, канчаецца найлепшая пара для нараджэння дзіцяці. Мець дзіця з каханым — якое ж гэта шчасце!

Я вырашыла не пісаць яму пра гэта, ані тэлефанаваць. Скажу яму сама! І я пачала збірацца ў дарогу. Збіраючыся, я ўвесь час меркавала, як я гэта зраблю, як паведамлю яму такую радасную навіну. Рабіла ў думках схему гэтай размовы. Ну, так, спачатку не скажу, вядома, нічога. Няхай уцешыцца, што я прыехала так сабе, без тае навіны. Бадай жа і мне належыцца крыху пачуцця, а не толькі нашаму дзіцяці. Прывітаемся, пацалуемся, а пасля... будзем какаца да непрытомнасці.

Спачатку дагаворымся, калі возьмем шлюб. Можа, у яго, адразу, а калі не — дык у Беластоку. Лета ж — цудоўная пара года, ды і яшчэ па мне нічога не будзе відаць.

Не, не скажу яму адразу пра сваю таямніцу. Яшчэ падумае, што хачу ўзяць яго на цяжарнасць. Спачатку вырашым, калі вяселле. А пасля... скажу яму, што ўжо нас трое.

Так я збіралася і марыла. Нарэшце ў маім жыцці нешта зменіцца, засвеціць сонейка. А што адной... То з тым, то з іншым, час ляцеў, а кахання не было. А тут на табе! — усё адразу.

Бацькі мае таксама цешыліся. Сказалі нават, што ахвотна дапамогуць нам выхаваць дзіця. Праўда, бацька папярэдзіў мяне, што яшчэ можа быць усякае, але што ён там ведае, — думалася мне.

Зраблю яму неспадзеўку. Не паведамляючы пра свой прыезд, я неспадзявана стала на яго парозе. Адчыніла мне немаладая, але даволі прыгожая жанчына ў халаце. Уяві сабе, Сэрцайка, яна ведала пра мяне! Я ўпэўнена ўвайшла ў хату, мяркуючы, што гэта можа быць яго старэйшая сястра ці нейкая сваячка. Можа, жыве ў іншым горадзе, дык прыехала ў госці або проста папрасілася пераначаваць, бо хата ў яго вялікая.

Але дзе там! Гэта ён ёй пра мяне нарасказваў, быццам мае замежную знаёмую. Нават у галаву ёй не прыйшло, што нешта можа звязваць нас. Я зразумела, што гэта ягоная баба. Божачкі, і была яна ў яго тады, калі спаў са мною. Калі я была якраз у санаторыі. Праўда, шлюбу яны не маюць, але ўжо пару гадоў жывуць разам і не збіраюцца развітвацца.

Што мне было рабіць?! Хваля жалю і злосці да самой сябе палілі мяне. Божачкі, чаму я такая дурная? Яшчэ на столькі мне хапіла розуму, каб нічога не гаварыць яму. Навошта? Што гэта дасць?! Калі кахае іншую і не адазваўся да мяне, дык, значыць, я была для яго толькі мімалётным імгненнем, якое ў маім сэрцы (і толькі ў маім, як зразумела я) пакінула трывалы след. Дык няхай яно і застанецца маім.

А я, Сэрцайка, уявіла сабе, што ён мяне сапраўды кахае. Дык можна ім верыць, ці не?

**Тоня**

Тоня! Закаханым людзям вельмі часта здаецца, што іх кахаюць таксама моцна, як кахаюць яны. Разабрацца ва ўсім гэтым бывае часта нялёгка.

З другога боку, хлопцы не робяць ніякіх праблем з „пераспаннем". З апісаных табой падзей вынікае, што не рабіла праблем і ты. Можа, трэба было прынамсі неяк асцярожней...

Пацехай будзе табе дзіця. Мо ён згодзіцца прынамсі даць яму прозвішча.

**Сэрцайка**